КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 43 (364) ◂ 15 лістапада ◂ 2013 г.
www.novychas.info

# Новы Час

ISSN 2218-2144



РЫГОР БАРАДУЛІН



**ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!**

**ДА НОВАГА ГОДА ВЫ ЯШЧЭ МОЖАЦЕ ПАДПІСАЦЦА НА «НОВЫ ЧАС» ПА СТАРЫХ КОШТАХ!**

З НАГОДЫ

# ШОЎ ПАВІННА ПРАЦЯГВАЦЦА

Сяргей ПУЛЬША

**Праца Аляксандра Лукашэнкі на публіку ў сваім стылі «знайсці вінаватых і пакараць абы-каго» выдатна спрацавала на мінулым тыдні.**




У час наведвання прадпрыемства Лукашэнка змяніў запланаваны маршрут і абышоў усю тэрыторыю завода, пераканаўшыся, што за цэлы год з ягонага мінулага прыезду на заводзе і на прылеглых да яго тэрыторыях не быў наведзены належны парадак. Да таго ж, усім прадпрыемствам дрэвaперапрацоўчай галіны трэба было скончыць мадэрнізацыю да 1 лістапада 2013 года.

Разнос быў учынены капітальны. У адстаўку адпраўлены намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Андрэй Тур, кіраўніку Адміністрацыі прэзідэнта Андрэю Кабякову абвешчаная «строгая вымова з апошнім папярэджаннем». Лукашэнка таксама распарадзіўся абвясціць вымову свайму памочніку, які «працуе разам» з «Барысаўдрэвам». Нават з віцэ-прэм'ерам Уладзімірам Сямашкам Лукашэнка паабяцаў разабрацца пасля агульнай нарады па праблеме мадэрнізацыі дрэваперапрацоўчых прадпрыемстваў. Да 10 снежня ўрад павінен распрацаваць пра гэта даклад Лукашэнку.

Губернатара Мінскай вобласці Барыса Батуру Лукашэнка на словах прызначыў кіраўніком «Барысаўдрэву». «Калі праз тры дні не выйдзе на працу, распачаць крымінальную справу па ім. Калі ён тут не справіцца да вясны — узбудзіць крымінальную справу», — крычаў кіраўнік дзяржавы.

Лукашэнка таксама запатрабаваў адхіліць ад пасады старшыню канцэрна «Беллеспаперапрам» і прызначыць яго намеснікам Батуры, запатрабаваў распачаць крымінальную справу ў дачыненні да генеральнага дырэктара ААТ «Будаўнічы трэст №21» Барысава Мікалая Бусалава і такіх жа дзеянняў і да кіраўніка праектнай арганізацыі.

Што і казаць, спадар Лукашэнка ў чарговы раз прадэманстраваў, што недатыкальных у нас няма. Але не варта забывацца на тое, што першай ахвярай «Барысаўдрэва» былі «дрэнныя беларусы», якія «не жадаюць працаваць». Роўнenька год таму наш правадыр таксама наведваў «Барысаўдрэў». Вынікам ягонага візіту стаў сумнавядомы дэкрэт №9, які фактычна ўводзіў «прыгоннае права» для працаўнікоў мадэрнізуемых прадпрыемстваў. Ім забаранялася звальняцца з такіх мадэрнізуемых структураў. Як бачым, зварот да досведу сярэднявечча вынікаў не даў.

Але ці насамрэч так вінаватыя Кабякоў, Тур і Батура? Блогер Віктар Малішэўскі адкапаў у архівах леташнюю пастанову ўрада №841, дзе кожнаму вышэйшаму чыноўніку дадзена прадпрыемства «на кантроль». Дык вось, у Кабякова і ў Тура наогул ніякіх праблемных прадпрыемстваў на кантролі няма. Звольнены Батура адказвае за «Маладзечнапіва». А віцэ-прэм'ер Сямашка, з якім яшчэ разбяруцца, — за Аршанскі льнокамбінат.

І самае галоўнае: куды глядзеў прызначаны прэзідэнтам «смотрящий» за мадэрнізацыяй Пётр Пракаповіч? Бо менавіта яго прэзідэнт папракаў «дрэннай мадэрнізацыяй» год таму. «Звяртаючыся да свайго памочніка Пятра Пракаповіча, Аляксандр Лукашэнка адзначаў, што той павінен пастаянна трымаць на кантролі рэалізацыю праектаў у гэтай сферы. Акрамя таго, Лукашэнка даручыў рэгулярна збіраць пасяджэння штабоў на чале з першым віцэ-прэм'ерам Уладзімірам Сямашкам і губернатарам рэгіёну, дзе знаходзіцца дрэваапрацоўчае прадпрыемства. «І там яны будуць усе пытанні вырашаць. Пётр Пятровіч, вазьміце на кантроль — па ўсёй дрэваапрацоўцы», — прыводзіла словы Лукашэнкі ягоная прэс-служба.

Пётр Пятровіч, «смотрящий» за мадэрнізацыяй, застаўся чысценькім. Чаму?

Ды проста таму, што ўсе гэтыя кадравыяператрусы і гучныя адстаўкі — проста шоў. Гульня на публіку. Нешта не верыцца, што Лукашэнка не разумее: прызначаць кіраўніком дрэваапрацоўчага прадпрыемства чалавека, які ў гэтай дрэваапрацоўцы дуб дубам — смеху варта, так прадпрыемства не падымеш, а толькі заводу нашкодзіш.

Галоўная мадэрнізацыя прадпрыемства павінна праходзіць не ў вытворчых памяшканнях, а ў галовах ягоных супрацоўнікаў. Колькі ты не ўсталёўвай сучасныя перапрацоўчыя лініі, усё роўна гэта будзе закопваннем грошай. Таму што ў сучасным свеце (і Беларусь гэта балюча перажывае) важна не толькі выrabляць прадукцыю, але і прадаваць яе. А над гэтым пытаннем на «Барысаўдрэве» не задумваўся ані Лукашэнка, ані ягоныя памагатыя.

Па запыце ў інтэрнэце «Барысаўдрэў, мэбля» пашукавік выдае аж чатыры нібыта «афіцыйныя» сайты прадпрыемста на розных даменах, і ніводны сайт не дароблены да канца. Толькі на адным з іх ёсць прайс-ліст прадукцыі, і той датаваны кастрычнікам мінулага года! Ну і як з такімі працаваць?

Да таго ж, ва ўлады вельмі кароткая «лава запасных». Калі паглядзець на кадравы склад кіраўніцтва Беларусі, то ўсе яны — пенсійнага і перадпенсійнага ўзросту. Няма там высокаадукаванай моладзі, няма замены тым «спецыялістам», якія кіруюць зараз краінай. Таму нічога не зробіцца з Сямашкам, Турам і Кабяковым. Можна перататасоўваць калоду колькі заўгодна, але ўсур'ёз іх замяніць не атрымліваецца.

Узяць, да прыкладу, таго ж Барыса Батуру. За няяўку на новае месца працы яму былі абяцаныя ўтульныя нары дзе-небудзь у следчым ізалятары. І што, з'явіўся? Фіг там — у панядзелак 11 лістапада ён спакойна гуляў па Мінску, і планаваў заняцца сваім здароўем. А што яму? Яму 66 год, ён ужо на пенсіі, можа паслаць словы прэзідэнта пра новае прызначэнне куды падалей: «Дзеда стары ўжо, яму ўсё адно», як казалася ў дзіцячым вершыку.

І што, Лукашэнка гэтага не разумее? Выдатна разумее. Таму і ўказ аб зняцці Батуры з пасады кіраўніка Мінскага аблвыканкаму падпісаны быў. А вось указа пра ягонае прызначэнне на пасаду кіраўніка «Барысаўдрэву» — не было.

Так што разборкі на «Барысаўдрэве» — пастановачнае шоў на публіку, і не больш за тое.

МЕРКАВАННЕ

# СЕВЯРЫНЕЦ: ШАНЦЫ НА АДЗІНАГА — 50 НА 50

Сяргей ПУЛЬША



**Пасля выхаду на волю сустаршыня аргкамітэту па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» Павал Севярынец у шматлікіх інтэрв'ю гаварыў, што мае намер папрацаваць на адзінства беларускай апазіцыі.**

З таго моманту мінула ўжо тры тыдні. Акрамя перамоваў Севярынец паспеў сустрэцца з актывам БХД у рэгіёнах, а 12 лістапада правеў сустрэчу з прыхільнікамі БХД у Мінску.

На сустрэчы Севярынец заявіў: зараз ён разлічвае шанцы апазіцыі па яднанні і па выхадзе на адзінага кандыдата на пасаду прэзідэнта ад апазіцыі як 50 на 50. Гэта вельмі аптымістычна, бо вонкава ні пра якое яднанне апазіцыі размовы не ідзе. На чым грунтуецца аптымізм палітыка?

— Перамовы былі досыць сур'ёзныя. З большасцю ўдзельнікаў палітычнага працэсу з апазіцыйных палітыкаў мы сустракаліся і размаўлялі на гэты конт. Ёсць ужо бачанне, дзе мы можам зрабіць супольныя крокі. У прамым эфіры патрала TUT.BY ужо прагучала, што ў апазіцыі будзе адзінае пасланне падчас гэтай кампаніі па мясцовых выбарах.

Не ўсе, можа быць, пачулі, але я паўтару: зараз і кааліцыя «Талака», і кааліцыя «Народны рэферэндум», і Беларуская хрысціянская дэмакратыя, якая не ўваходзіць ні ў якія кааліцыі, працуюць над адзіным пасланнем у час гэтай мясцовай кампаніі. Такога ў нас не было ніколі, колькі я памятаю мясцовых кампаній. То бок, гэта ўжо першая пляцоўка для адзінства.

Непераадольных супярэчнасцяў у апазіцыі, як я пабачыў у размовах, няма. Ёсць пэўныя асабістыя супярэчнасці, над іх вырашэннем мы зараз працуем. Я думаю, што недзе да канца года можна ўжо будзе абмяркоўваць, наколькі вялікая верагоднасць у яднанні апазіцыі. Таму што абмяркоўваюцца зараз працэдуры, абмяркоўваюцца кандыдатуры, ясна, што працэс гэты доўгі. З вялікім задавальненнем яго праводзяць, скажам так, заўсёдныя палітычнага працэсу.

Але нашая задача — ужо ў 2014 годзе мець яснасць на гэты конт. З пачатку 2014 года, з таго моманту, як пачнецца мясцовая кампанія.

Адзінства апазіцыі было магчымае ў 1989 годзе, калі паўставаў Беларускі народны фронт. У нас была адзіная апазіцыя — БНФ, і быў адзіны лідар — Зенон Пазьняк. Адзінства апазіцыі было магчымае ў 2001 годзе. Хай сабе быў абраны і слабы кандыдат, але ўся Беларусь разумела, што гэта альтэрнатыва, гэта супраць Лукашэнку. Адзінства апазіцыі было ў 2006-м, калі быў Мілінкевіч і была адна Плошча. Таму прыкладаў, калі беларуская апазіцыя магла аб'ядноўвацца і выдаваць адзінага кандыдата — іх болей, чым прыкладаў раздробленасці.

З прыкладаў раздробленасці самы яскравы, бадай, 2010 год. Каб не паўтарыць 2010 года і разгром, які быў пасля, трэба працаваць над адзінствам каманды, адзінствам стратэгіі і над адзіным кандыдатам.

У мяне ёсць вера ў тое, што гэта магчыма, інакш бы я за гэта не браўся. Ёсць досыць высокія шансы на абранне адзінага кандыдата. Найперш, таму, што ў ім ёсць запатрабаванасць беларускага грамадства. Пасля дэвальвацыі 2011 года пытанне: «Калі не Лукашэнка, то хто?», стаіць востра, рубам, кранае кожнага, б'е па кішэні. Гэта пытанне такое ж надзённае, як пытанне, які там курс долара альбо калі гэтыя долары мяняць.

Па-другое, у адзіным кандыдаце ёсць запатрабаванасць еўрапейцаў. Еўрапейцы, Злучаныя Штаты, яны хочуць чуць адзіны голас апазіцыі, і гэта матывуе тых, хто змагаецца тут, у Беларусі.

Па-трэцяе, ёсць досвед. Кандыдаты ў прэзідэнты, якія пайшлі ўразброд у 2010 годзе, атрымалі па галаве. Зараз жадаючых менш. Але, тым не менш, кожны жадаючы, які хоча ісці асобна на прэзідэнцкіх выбарах–2015, павінен разумець: калі ён пойдзе ў адрыве ад адзінай каманды, ёсць вялікая рызыка скончыць прэзідэнцкую кампанію ў турме, і ўвесь наступны тэрмін прасядзець там. Таму што не будзе адзінай сілы, якая здольная такога чалавека абараніць.

Мне здаецца, што здаровы розум, абмеркаванне памылак і ўрокаў 2010 года нараджае ўпэўненасць у тым, што будзе адзіны кандыдат. І шанец на змены ў 2015 годзе — гэта адзіны кандыдат. Калі будзе адзіны кандыдат, то змены вельмі магчымыя.

Зараз мы вядзем працу над тым, каб Беларусь была прадстаўленая саміце Усходняга партнёрства, што неўзабаве адбудзецца ў Вільні, супольнай заявай беларускіх дэмакратычных сілаў. Не буду пакуль казаць, што гэта за дакумент, але думаю, што яго змогуць падтрымаць і большасць еўрапейскіх палітыкаў. Калі гэта адбудзецца, і адзіны голас Беларусі, адна каманда з боку беларускіх дэмакратычных сілаў заявіць пра імкненне да асацыяцыі з Еўрапейскім саюзам, а еўрапейскія палітыкі гэта падтрымаюць, гэта будзе ўжо сур'ёзнай перамогай і самой Беларусі, і стратэгіі адзінства беларускай апазіцыі.

ЦЭНЗУРА

# ХТО ЗАБАРАНІЎ САЙТ «ВЯСНЫ»?

**13 лістапада намеснік старшыні Праваабарончага цэнтра «Вясна» Валянцін Стэфановіч накіраваў скаргу ў Міністэрства сувязі і інфарматызацыі. Ён дамагаецца рассакрэчвання органа, паводле рашэння якога сайт арганізацыі патрапіў пад забарону.**

З пытаннем пра тое, які дзяржаўны орган прыняў рашэнне аб унясенні інтэрнэт-рэсурса www.spring96.org і ў сувязі з чым, праваабаронца раней звяртаўся ў Аператыўна-аналітычны цэнтр пры прэзідэнце Рэспублікі Беларусь, а таксама ў дзяржаўную інспекцыю па электрасувязі, бо, паводле інфармацыі з ААЦ, менавіта «БелДІЭ» мусіла даць адказ па сутнасці пастаўленых пытанняў. Аднак праваабаронца так і не атрымаў абяцанага адказу.

Начальнік «БелДІЭ» Сяргей Багданаў паведаміў Валянціну Стэфановічу, што «нарматыўнымі прававымі актамі не рэгламентаваны паўнамоцтвы РУП «БелДІЭ» па распаўсюджванні інфармацыі аб ідэнтыфікатарах інтэрнэт-рэсурсаў, якія змяшчаюцца ў спісе абмежаванага доступу».

«Атрымліваецца вельмі дзіўная сітуацыя, калі, з аднаго боку, публічна і афіцыйна паведамляецца аб аднясенні шэрагу інтэрнэт-рэсурсаў, сярод якіх і сайт Праваабарончага цэнтра «Вясна» www.spring96.org, да спісу абмежаванага доступу, а, з іншага боку, я як карыстальнік інтэрнэт-паслугаў і сталы аўтар дадзенага рэсурсу, не магу атрымаць вычарпальную інфармацыю аб тым, на падставе рашэння якога дзяржаўнага органа гэты рэсурс быў унесены ў такі спіс. Калі зыходзіць з атрыманага мной адказу з РУП «БелДІЭ», то дадзеная інфармацыя з'яўляецца сакрэтнай і закрытай для шырокай грамадскасці. Замест адказу па сутнасці пастаўленых пытанняў мне было прапанавана звярнуцца ва ўсе ўпаўнаважаныя органы, якія прымаюць такія рашэнні… Атрымліваецца, я мушу сам шукаць сярод вялікай колькасці рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання менавіта той адзіны, які прыняў адпаведнае рашэнне, і высвятляць у яго прычыны прыняцця такога рашэння?» — піша праваабаронца ў скарзе ў Міністэрства сувязі і інфарматызацыі.

Цяпер ужо сваё пытанне Валянцін Стэфановіч ставіць перад міністэрствам.

**Паводле spring96.org**

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# ВЫВОЗІЛІ Ў ЛЕС, БІЛІ І ЗАПАЛОХВАЛІ

**Гандляры — азербайджанцы, таджыкі, армяне — праз лідара прадпрымальніцкага руху паскардзіліся на масавы гвалт з боку асобаў у цывільным, якія іх хапалі, білі, запалохвалі.**

Індывідуальны прадпрымальнік, прадстаўнік руху "За свабоднае развіццё прадпрымальніцтва" Алесь Таўстыка паведаміў «Свабодзе» пра інцыдэнт на мінскім рынку «Экспабел», які здарыўся 8 лістапада паміж 9-й і 10-й раніцы.

«Прыехалі каля 40 невядомых у цывільным на двух аўтобусах. Яны называліся міліцыянтамі, але дакументаў не прад'яўлялі. Па двое невядомыя падыходзілі да кожнага гандлёвага месца, да гандляроў, якія працуюць на адкрытых радах і з'яўляюцца іншаземцамі — азербайджанцамі, армянамі, таджыкамі ды іншымі. Калі тыя не мелі з сабою дакументаў для легальнай працы, іх забіралі, выводзілі ў аўтобус. Тых, у каго быў з сабою від на жыхарства, не чапалі. У аўтобусах іх вывозілі ў лес, у раён Курапатаў, і збівалі. У прыватнасці, білі па нырках, душылі капюшонамі куртак, прымушалі прысядаць, запалохвалі, перапісвалі нумары тэлефонаў».

Алесь Таўстыка асабіста не быў сведкам гэтага інцыдэнту. Яму распавялі пра яго пацярпелыя гандляры, якія баяцца помсты, таму не называюць сваіх прозвішчаў.

Пабітыя замежнікі не пісалі ніякіх заяваў у міліцыю ці пракуратуру, таму што баяцца помсты і дэпартацыі.

З карэспандэнтам «Свабоды» пабітыя гутарыць адмаўляюцца з-за страху, хоць Алесь Таўстыка перадаваў ім такую просьбу.

Паводле спадара Таўстыкі, усяго пацярпелі каля 40 чалавек. Яны сцвярджаюць, што іх білі передусім, каб запалохаць і каб у Беларусі не ўзнікла інцыдэнтаў, падобных да таго, які здарыўся ў маскоўскім Бірулёве.

У міліцыі Мінскага раёну, на тэрыторыі якога знаходзіцца рынак «Экспабел», не пацвердзілі, што такі інцыдэнт меў месца:

«Нідзе ніякай інфармацыі пра гэта няма. Я ўдакладняла ў начальніка крымінальнага вышуку і ў начальніка міліцыі. Зваротаў з боку грамадзянаў на такую тэму не было», — заявіла «Свабодзе» Тацяна Залога, прэсавы афіцэр міліцыі Мінскага раёну.

**Паводле Радыё «Свабода»**

ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫЯ

# УСЁ ЗАЛЕЖЫЦЬ АД БЕЛАРУСІ

Сяргей ПУЛЬША

**Традыцыйна з нагоды Дня незалежнасці пасол Польшчы дае прэс-канферэнцыю. Гэты год выключэннем не стаў.**

І наўрад ці гэтая прэс-канферэнцыя адрознівалася ад мінулагодняй. Нашыя адносіны з Польшчай амаль не развіваюцца. А не развіваюцца таму, што Беларусь сама не рэагуе на шматлікія сігналы суседзяў. Пра гэта збольшага казаў Лешак Шарэпка. Склалася ўражанне, што праз прэсу ён паспрабаваў падштурхнуць беларускія ўлады да вырашэння тых праблемаў, якія б ён мог вырашыць з дапамогай нашай дзяржавы.

Найпераш, канешне, Шарэпка адзначыў, што некаторы штуршок у двухбаковых адносінах ёсць. У гэтым годзе Польшчу наведалі два нашых намеснікі міністра — сельскай гаспадаркі і эканомікі. Але такім узроўнем адносінаў Шарэпка не задаволены. А вось зрабіць нічога не можа.

Самае балючае пытанне шараговых беларусаў — шэнгенскія візы, якія выдае амбасада Польшчы. У гэтым кірунку, па словах пасла, «Польшча амаль вычарпала свае магчымасці». Польскае пасольства за мінулы год выдала 350 тысячаў шэнгенскіх візаў — гэта 42% усіх візаў ЕС. Да таго ж 3,5% беларусаў маюць зараз нацыянальныя польскія візы. «Эфектыўнасць візавай палітыкі залежыць і ад прымаючага боку», — намякнуў Шарэпка.

Паводле словаў пасла, ён не супраць, каб Беларусь і Польшча падпісалі дамову пра «абмен візамі» і вярнуліся да "дашэнгенскага перыяду", калі для наведвання Польшчы візы было не трэба. Але… «Калі мы кажам аб мяжы, мы заўсёды кажам і аб малым памежным руху. У 2007 годзе, на першай сваёй прэс-канферэнцыі я пажартаваў, што з Расіяй мы пачалі перамовы аб такім памежным руху з Калінінградскай вобласцю, і дасягнем іх хутчэй, чым з Беларуссю. Так яно і сталася», — адзначыў Шарэпка.

Па словах пасла, шмат што ў адносінах Беларусі і Польшчы залежыць ад адносінаў Беларусі і ЕС. «Напрыклад, мы не можам адрамантаваць памежны мост, бо няма закону аб прававым парадку на мяжы, мы проста не ведаем, як гэта зрабіць», — казаў Шарэпка.

«Шмат людзей ездзяць у Польшчу, набываюць там тавары. Каб у Беларусі быў нармальны інвестыцыйны клімат, каб польскія прадпрымальнікі адчынілі крамы тут, можа, і не трэба было б ездзіць. Але ўсе пытанні ўпіраюцца ў пазіцыю Беларусі. Беларусь не мае жадання да паўнамаштабнага дыялогу», — лічыць пасол.

Праблемы добрасуседства, перасячэння мяжы, інвестыцый і гандлю — усё гэта ўпіраецца ў тое, што Беларусь пакуль, здаецца, не мае намеру мець адпаведныя дачыненні і пагадненні з Польшчай і з ЕС. А без жадання Беларусі нічога зрабіць не атрымаецца.

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# ГРАМАДЗЯНЕ, ДАЙЦЕ КАПЕЙЧЫНКУ!

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Вы не паверыце, але пасля таго, як Аляксандру Лукашэнку дабудавалі новую рэзідэнцыю — Палац Рэспублікі, у Беларусі ў чарговы раз скончыліся грошы.**



Сапраўды, мінулы тыдзень можна з поўным правам называць тыднем пошуку капейчыны, бо столькі размоваў пра грошы не ў кожны месяц выпадае, колькі за апошнія сем дзён. І гэта было б вельмі смешна, каб не было так сумна: грошы, як заўсёды, збольшага плануецца выняць з нашых кішэняў.

Але ж гэты тыдзень — бадай што адзіны выпадак, калі дзяржава спачатку паглядзела, што ў пошуках грошай ёй можна прадаць непатрэбнага. Добра азірнуўшыся, віцэпрэм'ер Пётр Пракаповіч пабачыў: ва ўлады шмат вольных памяшканняў. А пачухаўшы патыліцу, ён згадаў, што з гэтым яму яшчэ гады два таму даручалася разабрацца.

І таму Пётр Пятровіч заявіў: усе заяўкі па продажы памяшканняў, якія знаходзяцца ва ўласнасці дзяржавы і арандуюцца больш за тры гады, павінны быць разгледжаныя да канца бягучага года. «Арандатарамі прадстаўлена 514 заявак (у мінулым годзе гэтая лічба была блізкая да нуля), а прададзена ў цяперашні час толькі 84 аб'екта. Да канца года гэтыя заяўкі павінны быць разгледжаны і задаволены. У краіне не выкарыстоўваецца 1,8 мільёна квадратных метраў плошчаў, а мы ніяк не можам іх задзейнічаць для малога і сярэдняга бізнэсу. Гэта абсалютнае невыкананне даручэнняў кіраўніка дзяржавы. Лукашэнка яшчэ ў 2012 годзе даручыў нам выкарыстоўваць гэтыя плошчы», — адзначыў Пракаповіч.

Так што хутка малы і сярэдні бізнэс зможа набыць сабе прыстойныя офісы. Зразумела, што потым у гэтыя офісы прыйдуць міліцыя, санстанцыя, МЧС, і кожнаму трэба будзе «адсцягнуць». Да таго ж невядома, як будзе працаваць гэты малы і сярэдні бізнэс ужо з 1 снежня, калі той жа Пракаповіч паабяцаў усім сертыфікацыю тавараў у Мытным саюзе. Пэўна, прыйдзецца купіць офіс, зрабіць у ім рамонт, «адсцягнуць» каму трэба, а потым прадаць офіс. Вось і ўвесь бізнэс.

Але не пераводзяцца ва ўладзе і спосабы зрабіць грошы з паветра. Прапануючы падаткі на 2014 год, наш урад заклаў туды такі пункт, як дзяржпошліна за допуск аўтамабіля да ўдзелу ў дарожным руху. «Прапануецца ўвесці дзяржпошліну за выдачу дазволу на ўдзел аўтамабіля ў дарожным руху. Гэта разавы плацёж, ён будзе залежаць ад вагі аўтамабіля і выплачвацца незалежна ад таго, ці ідзе гаворка аб легкавых або грузавых аўтамабілях», — заявіў намеснік начальніка галоўнага ўпраўлення бюджэтнай палітыкі Міністэрства фінансаў Беларусі Алег Селіверстаў.

Паводле словаў урадаўцаў, дзяржпошліна на допуск транспарту да ўдзелу ў дарожным руху будзе мець дыферэнцаваную стаўку — ад 1 да 25 базавых велічынь у залежнасці ад прыналежнасці транспартнага сродку (юрыдычнай або фізічнай асобе), яго выгляду (грузавы або легкавы), дазволенай максімальнай масы. Як мяркуецца, за допуск да руху найбольш папулярных сярод беларускіх грамадзян легкавых аўтамабіляў прыйдзецца заплаціць пошліну ў памеры ад 3 (аўтамабіль з дапушчальнай масай не больш за 1 тоны) да 5 базавых велічынь (1–2 тоны). Прычым, нягледзячы на «разавасць» збору, адзначаецца, што «перыядычнасць выплаты дзяржпошліны на дадзены момант невядомая».

Што тут можна сказаць? Па правілах дарожнага руху, пешаход з'яўляецца такім жа ўдзельнікам гэтага руху, як і кіроўца аўтамабіля. Дарэчы, як і ваварыст, і лыжнік. Дык калі мы ўводзім дадатковы падатак на калёсы, давайце яшчэ ўвядзем падатак і на ногі! На кожную нагу паасобку, каб дыферэнцавана падысці да аднаногіх альбо ўвогуле бязногіх грамадзян. Тым больш, што аўтааматары ўжо плацяць ДАІ за рэгістрацыю машыны. А чаму мы не абавязаны рэгістраваць ногі? А то нейкая дыскрымінацыя аўтааматараў атрымліваецца. І грошыкі, зноў жа, у бюджэт.

А калі нехта не згодны зарэгістраваць нагу і заплаціць з яе падатак, таго мы будзем прыцягваць да адказнасці. Так, як напісана ў праекце закона «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Кодэкс аб адміністрацыйных правапарушэннях». А напісана там, што злосных даўжнікоў можна будзе саджаць на суткі ў якасці прафілактыкі.

«Прапануецца ўзмацніць адказнасць, аж да адміністрацыйнага арышту, у дачыненні да даўжнікоў па ўстаноўленых судамі сумах», — паведаміў старшыня Вярхоўнага Суда Беларусі Валянцін Сукала, прадстаўляючы законапраект у парламенце.

Пры гэтым ён адзначыў, што зараз у Беларусі «920 тысяч даўжнікоў, якія павінны выканаць рашэнне судоў па ўсталяваных сумах, але не заўсёды гэтыя рашэнні выконваюцца». Сукала таксама ўдакладніў, што па гэтых 920 тысячах даўжніках маюцца 1,5 мільёна выканаўчых судовых лістоў, то бок некаторыя даўжнікі маюць не адно нявыкананае судовае рашэнне па сплаце грошай.

«Прыняцце гэтага законапраекта і ўзмацненне адміністрацыйнай адказнасці будзе стымуляваць даўжнікоў да выканання судовых рашэнняў», — лічыць Сукала, і нагадвае, што ў бліжэйшы час у Беларусі будзе створана адзіная служба судовых выканаўцаў.

Нешта незразумелае Сукала прыдумаў: чалавек не плаціць па судовым зыску, а дзяржава яго яшчэ і на забеспячэнне бярэ на тэрмін да 15 сутак. Для таго, каб выконваць судовыя рашэнні па сплаце зыскаў, трэба не законапраекты прымаць. Трэба проста распрацаваць для гэтых судовых выканаўцаў адзіную форму адзення, дзе ў якасці спецсродкаў вызначыць, у духу «ліхіх 90-х», прас і паяльнік. Вось тады служба судовых выканаўцаў запрацуе напоўніцу.

Ну і, канешне, улады чухаюць патыліцу, як сабраць грошы з беспрацоўных — каб ужо нікому крыўдна не было. Наколькі можна зразумець, пытанне «завісла» толькі ў адным аспекце: колькі ж грошай браць з беспрацоўнага? Прынамсі, у такім сэнсе выказалася начальнік галоўнага ўпраўлення фінансавання сацыяльнай сферы і навукі міністэрства фінансаў Беларусі Святлана Крэтава: «У цяперашні час ва ўрадзе разглядаецца пытанне аб устанаўленні платы для грамадзян, якія не ўдзельнічаюць у фарміраванні даходнай часткі бюджэту шляхам выплаты падаткаў, бо нідзе фармальна не працуюць, але тым не менш карыстаюцца сацыяльнымі выгодамі, якія фінансуюцца з бюджэту».

Можа, замест ліхаманкавых пошукаў грошай нам проста прадаць каму-небудзь Палац Рэспублікі?

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ



### УЛАДЗЬ ЯРОМЕНАК

Калегія Мінскага гарадского суда пакінула без зменаў прысуд Першамайскага суда, паводле якога актывіст «Маладога фронту», былы палітвязень Уладзь Яроменак мусіць адбыць 3 месяцы арышту ў арыштным доме. Актывіста асудзілі за парушэнні прафілактычнага нагляду.

На разбор скаргі Яроменка пайшло 7 хвілін. Абаронца Яроменка прасіла суд адмяніць рашэнне аб пакаранні на той падставе, што пры зборы доказаў ягонай віны былі істотна парушаныя патрабаванні закону. Таксама адвакатка казала пра сумнеўны подпіс сведкі ў справе, які, магчыма, быў падроблены.

Прадстаўніца пракуратуры, наадварот, заяўляла пра бездакорнасць доказаў віны актывіста. Паводле яе, Уладзь Яроменак шмат разоў не начаваў дома, як патрабавалі правілы нагляду, і гэта засведчана як праверкамі міліцыянтаў, гэтак і паказаннямі іншых сведак, якім няма падставаў не верыць.

Тое, што касацыйную скаргу не задаволілі, Яроменак сустрэў без эмоцыяў. Паводле актывіста, іншага ён не чакаў. Канешне, Яроменак падасць скаргу на рашэнне Мінгарсуду ў Вярхоўны суд, але разгляд новай скаргі прыпадзе на час, калі ён ужо будзе ў арыштным доме. Калі дакладна Яроменка накіруюць у арыштны дом, вырашаць у міліцыі.

Фішка рашэння суда ў тым, што прафілактычны нагляд, за парушэнне ўмоваў якога Яроменак асуджаны, зняты з былога палітвязня яшчэ напачатку кастрычніка.

### УЛАДЗІМІР СЯКЕРКА



Камітэт па правах чалавека ААН прызнаў, што беларускія ўлады парушылі правы Уладзіміра Сякеркі на правядзенне мірнага сходу. Адпаведнае рашэнне прынята КПЧ ААН 28 кастрычніка.

У Камітэт ААН Уладзімір Сякерка паскардзіўся пасля таго, як не знайшоў абароны сваіх правоў унутры краіны. Гомельскі гарвыканкам забараніў яму і іншым 45 актывістам правесці яшчэ ў 2007 годзе ў абласным цэнтры серыю масавых мерапрыемстваў супраць прыняцця закона аб адмене льгот для шэрагу катэгорыя грамадзян.

Мясцовыя чыноўнікі запатрабавалі тады ад дэмакратаў аплаціць паслугі міліцыі, камунальнікаў і хуткай дапамогі.

Камітэт па правах чалавека нагадаў, што калі дзяржава накладвае абмежаванне на свабоду мірнага сходу, тады дзяржава ж павінна садзейнічаць ажыццяўленню права, а не ствараць дадатковыя перашкоды. На падставе рашэння Камітэта ААН урад павінен забяспечыць ахвяры парушэння эфектыўны сродак прававой абароны, уключаючы поўнае пакрыццё выдаткаў і належную кампенсацыю, а таксама абавязана не дапускаць падобных парушэнняў у будучыні.

Акрамя таго, беларускія ўлады павінны змяніць нацыянальнае заканадаўства аб масавых мерапрыемствах і практыку яго прымянення такім чынам, каб забяспечыць кожнаму права на свабоду правядзення мірных сходаў.

Адзінае, што беларуская дзяржава ўжо даўно бачыла ў труне гэты Камітэт па правах чалавека, і дагэтуль не выканала ніводнага ягонага рашэння.

### МІХАІЛ ГРАБОЎСКІ




Форвард «Вашынгтон Кэпіталз» і хакейнай зборнай Беларусі Міхаіл Грабоўскі закінуў сваю 100-ю шайбу ў чэмпіянатах Нацыянальнай хакейнай лігі.

Гэта адбылося ў матчы «Вашынгтона» з «Каламбусам», дзе «Вашынгтон» выйграў з лікам 4:3. Міхаіл зраўняў лік у матчы, зрабіўшы яго 3:3, ён таксама аддаў адну галявую перадачу і быў прызнаны трэцяй зоркай матчу.

Цяпер у Грабоўскага ў НХЛ 234 выніковыя балы (100 шайбаў + 134 галявыя перадачы); прычым за пяць сезонаў, праведзеных у «Таронта», ён закінуў 91 шайбу і аддаў 117 галявых перадачаў. Міхаіл пачынаў кар'еру ў «Манрэалі», а ўлетку перайшоў у «Вашынгтон».

За час выступлення ў НХЛ Грабоўскі абагнаў Андрэя Касціцына, у якога 222 дзейсныя балы (103+119) за 398 матчаў. Але Андрэй Касціцын з'ехаў з НХЛ у КХЛ.

Трэцім у спісе беларусаў — гульцоў НХЛ ідзе Руслан Салей з 204 баламі (45+159) у 917 гульнях.

ПАРАЛЕЛІ

# СЕРБІЯ — БЕЛАРУСЬ.

Аляксей КАРОЛЬ

**З нацыянальнай ідэяй, як у Сербіі, так і ў Беларусі, — усё няпроста. Але няпроста — па-рознаму. Адрозніваецца, і даволі істотна, сам змест.**

Як сведчыць вопыт постталітарных трансфармацый у былых краінах СССР і так званага сацыялістычнага лагеру, іх абавязковым элементам быў нацыянальны гістарычны міф, нацыянальная ідэя. На гэтым акцэнтаваў сваю ўвагу вядомы славацкі пісьменнік і публіцыст, былы дысідэнт Марцін Мілан Шымечка падчас нашай сустрэчы ў Браціславе ў мінулым годзе. (НЧ, 2012, №43 ад 9 лістапада).

Да гэтай тэмы, да аналізу асаблівасцей ідэалогіі сербскага нацыяналізму і неабходнасці яе карэктоўкі пастаянна звярталіся ўсе інтэлектуалы, з якімі я нядаўна сустракаўся ў Бялградзе.

## Нацыянальная ідэя як палітычны інструмент

У найноўшы час у Сербіі нацыянальная ідэя спрацавала двойчы. Першы раз яе выкарыстаў Мілошавіч для прарыву ва ўладу і стварэння сваёй аўтарытарнай сістэмы. Другі — дэмакратычная апазіцыя для звяржэння Мілошавіча.

У Беларусі нацыянальная ідэя спрацавала адзін раз, калі 25 жніўня 1991 года Вярхоўны Савет пад уплывам дэпутатаў апазіцыі Беларускага народнага фронту надаў Дэкларацыі аб незалежнасці Рэспублікі Беларусь канстытуцыйны статус.

Але пасля трох гадоў свайго развіцця ва ўмовах дэмакратычных свабодаў Беларусь, з абраннем у 1994 годзе першага прэзідэнта, зноўку трапіла ў абцугі аўтарытарнага рэжыму.

У адрозненні ад Сербіі, у Беларусі змены палітычных сістэм не адбылося. Усю канцэпцыю беларускага нацыянальнага міфа Аляксандр Лукашэнка па сутнасці адкінуў. Беларусь у яго планах мела стаць часовым плацдарма для прарыву на Крамлёўскі пасаг.

План сарваўся. Рэальнасцю сталася амаль поўная эканамічная і палітычная залежнасць рэжыму Лукашэнкі ад Масквы, а з тым і пагроза страты Беларуссю дзяржаўнага суверэнітэту (ці існаванне ў якасці палітычнага сатэліта Расіі, ці інкарпарацыя ў яе склад).

Досвед гісторыі сведчыць аб неадназначнай ролі нацыянальная ідэі. Прыкладаў пераўвасаблення нацыянальна-вызвольных рухаў у аўтарытарныя і дыктатарскія рэжымы мы ведаем дастаткова. Усе залежыць ад канкрэтнага зместу нацыянальнай ідэі, яе адаптацыі да часу і ўмоваў.

## Сербская ідэя

Пра асаблівасці сербскага нацыянальнага міфа мне распавяла прафесар Бялградскага ўніверсітэту Дубраўка Стаянавіч.

Яна паразнала гэты міф з рэчкай, што ў часы сацыялізму сышла пад зямлю і стала нябачнай. Але прабівалася крыніцамі на паверхню. Міф захоўваўся не толькі ў прыватных асяродках — сем'ях, нефармальных гуртках, але і ў пэўных інстытутах, такіх, як сербская акадэмія навук, саюз пісьменнікаў, выдавецтвы. «Гэта не было сакрэтам, — зрабіла акцэнт Дубраўка Стаянавіч, — і з пачаткам крызісу сацыялізму рака выйшла на паверхню».



Дубраўка Стаянавіч, прафесар Бялградскага ўніверсітэта

Па выніках даследавання «Сербскі бок вайны», якое праводзіла прафесар з групай навукоўцаў, гэты сербскі нацыянальны міф выйшаў на паверхню ўжо ў 1985 годзе — найперш праз царкву, праз СМІ, праз публіцыстыку і літаратурныя творы. Праграма ўжо была гатовая. Яшчэ за два гады да таго, як да ўлады прыйшоў Мілошавіч. Не ён яе творца, ён той, хто, па меркаванні даследчыкаў, выканаў сваю частку працы, хто завяршыў будаўніцтва.

> Сербскі нацыянальны гістарычны міф трымаецца на трох апорных ідэях.
>
> **Першая:** Сербія — самая старажытная дзяржава на Балканах, прычым адзіная незалежная дзяржава ў XIX стагоддзі. Дзяржава, якая двойчы была заснавальнікам Югаславіі.
>
> **Другая:** Сербія — ахвяра. Яна ахвяравала дзяржаўнасцю, каб сваю дзяржаўнасць атрымалі і іншыя народы — харваты, славенцы. 1 200 000 сербаў загінула падчас Першай сусветнай вайны ў імя стварэння Югаславіі. Ахвяры ў Другой сусветнай. Менавіта сербы, адпаведна гэтай канцэпцыі, складалі большасць партызан, якія пасля перамогі зноўку заснавалі Югаславію на федэратыўных прынцыпах.
>
> **Трэцяя:** сербы ахвяруюць сабой, а іншыя народы — славенцы, харваты, — няўдзячныя, за іх спіной пастаянна развальваюць Югаславію.
>
> Сацыялістычная эпоха, у рамках гэтай інтэрпрэтацыі нацыянальнага міфа, прадстаўлена як змова супраць сербаў, паколькі кіраўнік Югаславіі Іосіп Броз Ціта быў харватам, а Сербія ў складзе федэрацыі мела толькі адзін голас.

Адсюль высновы: час, калі Сербія ахвяравала сабой у імя Югаславіі, скончыўся, прыйшоў час стварыць уласна Сербію. Прычым нават не ў межах былой Югаславіі, (старая канцэпцыя), а значна шырэй — «у этнічных межах». Але ў своеасаблівай трактоўцы, якая па сутнасці была ідэяй стварэння Вялікай Сербіі, аж да Адрыятыкі.

«Этнічная праграма і лозунг Мілошавіча, — падкрэсліла прафесар Стаянавіч, — Сербія — гэта дзяржава, у якой па этнічнаму складу будуць жыць усе сербы. Што азначала ўключэнне ў яе склад Чарнагорыі, Босніі і большай часткі Харватыі. У доказ такіх правоў Сербіі выкарыстоўвалася гісторыя».

Спачатку ў гэтай інтэрпрэтацыі нацыянальнага міфу ваяўнічы матыў амаль не гучаў. Ён узмацняўся паступова, асабліва пасля таго, як міф узялі на ўзбраенне палітычныя эліты, найперш посткамуністычная на чале з Мілошавічам.

Адбітак у масавай свядомасці гэты міф набыў пасля сямі гадоў актыўнай прапаганды — праз усе СМІ, радыё і тэлебачанне — недзе, па меркаванні прафесара Дубраўкі Стаянавіч, з 1985 па 1991 гады.

Важкі ўнёсак тут належыць персанальна Мілошавічу. У 1988–1989 гадах у яго было мноства выступленняў на мітынгах, якія збіралі тысячы людзей. У прыватнасці, на мітынгу, прысвечанаму 600-й гадавіне бітвы на Косавым полі (1389 год), прысутнічала, па некаторых ацэнках, да 1 мільёна чалавек. Галоўны сэнс прамовы Мілошавіча зводзіўся да таго, што ў гэтай бітве Сербія страціла сваю дзяржаўнасць, і прыйшоў час стварыць сваю дзяржаву, а не Югаславію. У тым ліку, калі спатрэбіцца, праз узброеную бітву.

Гэта было сказана, падкрэсліла прафесар Стаянавіч, за два гады да баснійскай вайны. І прагучала па сутнасці аб'яўленнем аб падрыхтоўцы да вайны.

Пасля вайны Мілошавічу ўдалося ў вачах сусветнай супольнасці падаць сябе ў якасці міратворца, што дапамагло яму ўтрымацца ва ўладзе. Але ідэалогія вайны захавалася, больш за тое, ва ўнутранай прапагандзе баснійская вайна выстаўлялася як прэвентыўная абарончая.

Аднак палітычнай эліце Мілошавіча, нягледзячы на татальную прапаганду, не ўдалося раздуць агрэсіўны нацыянальны міф аб Вялікай Сербіі да маштабаў агульнанацыянальнага псіхозу. Але ўдалося цалкам нейтралізаваць антываенныя настроі і сцвердзіць гэты міф у якасці ідэалагічнай платформы сваёй улады. З передачай наступнікам.

Апазіцыя ўсю віну за паразы ў войнах, за санкцыі і міжнародную ізаляцыю краіны, за агульную катастрофу, у якую трапіла Сербія, усклала на Мілошавіча. Потым па патрабаванні Захаду выдала яго Гаагскаму суду, а ўслед і генералаў (з 1995 да 2010 года здалі ўсіх), але пакінула не кранутай яго ідэалогію.

«Ніхто за 13 гадоў, — распавяла прафесар Дубраўка Стаянавіч, — не правёў аналізу, чаму Сербія апынулася ў той вайне. А гэта ключавое пытанне».

Менавіта пераемнасць ідэалогіі агрэсіўнага нацыяналізму ўкладалі мае сербскія суразмоўцы ў формулу: «Мілошавіч сышоў, Мілошавіч застаўся». Адмову ад гэтай канцэпцыі, неабходнасць неадкладнай трансфармацыі сербскай нацыянальнай ідэі ў адпаведнасці з дэмакратычнымі каштоўнасцямі, са зменамі, што адбыліся ў Сербіі і ў міжнародным становішчы, усе мае суразмоўцы называлі ў якасці першаснай задачы.



Універсітэт у Бялградзе



Каралеўскі палац. На сённяшні час —- рэзідэнцыя прэзідэнта

## Беларуская ідэя

Ідэя Вялікай Сербіі, у тым выглядзе, які яна набыла пры Мілошавічу, мае больш падабенства з расійскай імперскай ідэяй Вялікай Расіі. Беларуская нацыянальная ідэя адметная менавіта сваім ярка выражаным мірным характарам і адсутнасцю вялікадзяржаўных памкненняў.

Упершыню выразна яна была сфармулявана напачатку XIX стагоддзя прафесарамі Віленскага ўніверсітэта Міхайлам Бабро ўскім і Ігнатам Даніловічам. Яе складовыя часткі: адраджэнне мовы і культуры, нацыянальнай самасвядомасці з канчатковым выхадам на ўсталяванне беларускай дзяржаўнасці. Беларуская ідэя ніколі не несла на сабе нават лёгкага адбітка месіянства на выключнасць беларускага народа, тэрытарыяльных прэтэнзій да суседзяў.

Гэты факт уражвае. Бо падказка на гістарычную натуральнасць — Вялікае княства Літоўскае — яшчэ не адышла ў сівую даўніну, а была палітычнай надзённасцю.

Што за гэтым? Гуманістычныя перакананні геніяльных навукоўцаў ці іх палітычная дальнабачнасць, якія на факце ўключэння паўночна-заходніх тэрыторый у склад Расіі па выніках трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай, празорліва ўгледзелі небяспеку пераўтварэння Беларусі ў разменную манету ў барацьбе паміж Захадам і Усходам? І такім чынам, праз стварэнне беларускай дзяржаўнасці, імкнуліся зняць (ці хаця б зменшыць) гэту небяспеку. Бо дзяржаўнасць, акрамя іншага, нясе ў сабе магчымасць самім вызначаць сваю палітыку, выбіраць саюзнікаў, шляхі барацьбы і развіцця.

На жаль, на той момант рэалізаваць ідэю беларускай дзяржаўнасці не атрымалася. Спатрэбілася яшчэ амаль два стагоддзі. Але менавіта гэта канцэпцыя нацыянальнай ідэі падняла да жыцця беларускі адраджэнскі рух, вызначыла яго сэнс і мэты ва ўсіх яго культурніцкіх і палітычных пераўвасабленнях.

Суверэнітэт, які Беларусь атрымала ў жніўні 1991 годзе, не зваліўся нечакана, як манна нябесная, збегам гістарычных абставін. Проста беларускі рух выйшаў на тую кропку спеласці, каб не прапусціць спрыяльны геапалітычны і ўнутрыпалітычны момант, што выпаў пасля развалу СССР.

Паўза ў два стагоддзі ў рэалізацыі нацыянальнай ідэі ў многім была прадвызначана якраз прычынамі геапалітычнымі, па волі якіх Беларусі выпаў цяжкі лёс разменнай манеты. Праз яе тэрыторыю раз-пораз пракатваліся знішчальныя войны і рэвалюцыі. Паланізацыя, русіфікацыя… Сталінскія рэпрэсіі… Неверагодна, як у такіх умовах, здавалася, на выпаленай да попелу нацыянальнай глебе, зноў і зноў адраджаўся беларускі нацыянальны рух.

Аднак ажыццяўленне беларускай ідэі ўласнымі сіламі аказвалася немагчымым. Адсюль

# НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ІДЭЯ



Сербскія гісторыкі падлічылі, што Бялград падвяргаўся ваенным дзеянням 38 разоў. Але стары горад, у асноўным гэта будынкі XIX — пачатку XX стагоддзя, пераважна захаваўся. І ён вельмі прыгожы. Але пакуль не хапае сродкаў на рамонт і рэстаўрацыю

і розныя арыентацыі тых ці іншых палітычных сілаў, у тых ці іншых абставінах — на Захад ці на Усход. Гэтая акалічнасць захоўваецца да сёння. Але ў іншым канкрэтным абрамленні.

Імперская пазіцыя палітычных колаў Расіі нясе відавочную пагрозу паглынання Беларусі. А вось для Захаду, ці не ў першыню ў гісторыі, Беларусь на сёння не з'яўляецца разменнай манетай. Гэта дае дадатковыя аргументы для выбару знешнепалітычнага накірунку — у Еўрасаюз. Для Беларусі гэта ёсць цывілізацыйны выбар, выбар ідэнтычнасці.

Галоўная пагроза суверэнітэту Беларусі зыходзіць ад уласнай улады. Комплекс праблем, якія стаяць у рэалізацыі беларускай нацыянальнай ідэі, вядомы. Гэта знешнепалітычная самаізаляцыя краіны, поўная матэрыяльная залежнасць ад Расіі. Гэта звужаная да немагчымага сфера ўжывання беларускай мовы. Гэта, наогул, адсутнасць спрыяльнай дзяржаўнай палітыкі для развіцця беларускай культуры. Як вынік — нізкі ўзровень нацыянальнай самасвядомасці насельніцтва.

Пры наяўнасці палітычнай волі ўсе гэтыя праблемы дастаткова лёгка і адносна хутка вырашаюцца. У канчатковым выніку існаванне беларускай дзяржаўнасці вызначаецца здольнасцю і воляй не нацыянальнай эліты рэалізаваць дэмакратычны выбар. У іншым выпадку Захад пакідае Беларусь па-за межамі еўрапейскай цывілізацыі, аддае яе ў сферу ўплыву Расіі.

Аднак сама канцэпцыя нацыянальнага міфу прынцыповай трансфармацыі не патрабуе. Акрамя, магчыма, пераносу акцэнту самаідэнтыфікацыі — з этнічнага ўзроўню на дзяржаўны.

> Для задач дня сённяшняга сутнасць беларускай ідэі, як ідэі аб'ядначай і мабілізуючай, можна сфармуляваць наступным чынам:
>
> Беларусь — дзяржава з даўнімі, ад Полацкага княства і ВКЛ, каранямі. І разам з тым Беларусь — маладая дзяржава, што абавязвае яе пазбягаць састарэлых формаў і канструкцый. Беларусы — нацыя з глыбокімі гістарычнымі традыцыямі. І разам з тым — маладая нацыя, закліканая адрадзіць страчаную дзяржаўнасць на аснове дэмакратычных прынцыпаў. Не ў ізаляцыі, а ў садружнасці з дзяржавамі еўрапейскай супольнасці. Не ў канфрантацыі з Расіяй, але і не ў якасці сатэліта, і тым больш не ў якасці Паўночна-Заходняга краю або губерні ў складзе Расійскай Федэрацыі. Усе нацыі, што пражываюць у Беларусі поруч з тытульнай, ёсць народам Беларусі з роўнымі правамі, магчымасцямі і абавязкамі. Усе выхадцы з Беларусі, якія даўно ці нядаўна пакінулі Радзіму — народ Беларусі.

## Трансфармацыя сербскага нацыянальнага міфа

У адрозненні ад беларускага нацыянальнага міфа сербскі патрабуе трансфармацыі яго цэнтральнай ідэі — ідэі Вялікай Сербіі. Дакладней, адмовы ад гэтай ідэі. Па меркаванні прафесара Дубраўкі Стаянавіч, сербская нацыянальная ідэя «набыла прагрэсіўнае значэнне напрыканцы XIX стагоддзя, калі зразумелі, што не могуць стварыць Вялікую Сербію і вырашылі стварыць Югаславію. Калі ж пры распадзе Югаславіі паставілі пытанне аб межах — гэта азначала вайну». З гэтым, з 1990-х, па выснове спадарыні Стаянавіч, сербская нацыянальная ідэя набыла агрэсіўны характар.

Пераход ад канцэпцыі агрэсіўнага нацыяналізму да дэмакратычнай азначае прызнанне перамен, што адбыліся, — у Сербіі, на Балканах, у свеце. Прызнанне таго факту, што Сербія на сёння ёсць і застанецца адносна невялікай дзяржавай, часткай Еўропы і мусіць жыць у дружбе з усімі іншымі нацыямі на Балканах і ў свеце.

Для гэтага, на погляд маіх суразмоўцаў, неабходна змена афіцыйнага палітычнага дыскурсу. Але пакуль у Сербіі пануе старая канцэпцыя.



Надзея Гачэ, галоўны рэдактар часопіса «Novi Magazin»

«Неабходна, — заўважыла ў размове са мной рэдактар незалежнага штотыднёвіка «Novi Magazin» Надзея Гачэ, — змяняць кантэкст». Да гэтага часу, канстатуе яна, у школах навучаюць, што мы самыя лепшыя, што Сербія заўсёды вяла справядлівыя вызваленчыя войны. Ніякіх спроб па-новаму пераасэнсаваць нядаўняе мінулае. «Я сапраўды лічу, — гаворыць яна, — што сербы павінны адчуваць сябе сербамі. Але сёння, у XXI стагоддзі, што гэта такое — сучасны сербскі нацыяналізм? Кансерватыўныя гісторыкі спыніліся на ўзроўні XII–XV стагоддзяў. Але ёсць група гісторыкаў, якая выказвае адрозную ад іх канцэпцыю. Яна патрабуе папулярызацыі, але замест спрыяння сустракае моцныя перашкоды ад уладных структур».

Другі бок праблемы: шматгадовая прапаганда ідэі Вялікай Сербіі, ідэалогіі вайны пакінула траўматычны след у масавай свядомасці. Менавіта на нацыяналістычных лозунгах выйграла апошнія выбары Сербская прагрэсіўная партыя, што вырасла з Сербскай радыкальнай партыі Ваіслава Шэшаля, паплечніка Слабадана Мілошавіча. Гэтыя лозунгі выкарыстоўвалі і ўсе астатнія партыі. Атрымліваецца замкнёная кола: партыі гавораць тое, што людзі прызвычаіліся чуць і што прыносіць ім галасы, людзі ж не чуюць новых слоў і апускаюць бюлетэні за старыя лозунгі.

На перакананне маіх суразмоўцаў, менавіта ў адсутнасці палітычнай волі ў партый, як уладных, так і апазіцыйных, залягае галоўная прычына гэтага шматгадовага кругавароту сербскага палітычнага істэблішменту па ідэалагічных рэйках 1990-х гадоў. З гэтага ў многім вынікаюць сацыяльныя і эканамічныя праблемы: людзі застаюцца ў няведанні сапраўднай сітуацыі, не атрымліваюць новых арыенціраў, новых імпульсаў да аб'яднання высілкаў, да мабілізацыі на стваральную працу дзеля рэалізацыі новай сербскай мары. Бо мары няма, яна не артыкуляваная.

Ва ўладзе, на меркаванне публіцыста Дэяна Іліча, «няма добра прапрацаванай канцэпцыі эканамічнага развіцця, акрамя адзінай — атрымаць крэдыты і прыцягнуць інвестыцыі. Іншым разам, нават без разумення, на што іх патраціць».

І ўсё ж, па маіх назіраннях падчас знаходжання ў Бялградзе, 13 год пасля Мілошавіча ў рамках дэмакратычнай сістэмы, хай сабе і недасканалай, не прайшлі бясследна. У тым ліку і для нацыянальнай самасвядомасці.

Даследаванні незалежнага Інстытута статыстыкі, які ўзначальвае Срдан Багасаўлевіч фіксуюць пераважна антываенныя настроі насельніцтва. Наогул, з апытанняў вынікае, што ідэя Вялікай Сербіі не мае глыбокага ўкаранення ў масавай свядомасці. Сербы былі задаволены Югаславіяй, а зараз задаволены Сербіяй. Яна не была кімсьці спланавана, а сфарміравалася натуральным чынам. Сербія — мультыэтнічная дзяржава: 83 працэнты — сербы, 4 — венгры, 2 — бушняты. Ёсць і іншыя нацыянальныя меншасці, у тым ліку цыгане, але яны складаюць нязначны працэнт.



Срдан Багасаўлевіч, дырэктар Інстытута статыстыкі

Але нацыянальная самасвядомасць, на погляд Срдана Багасаўлевіча, слаба арганізаваная, сербы слаба ўсведамляюць сябе як сербаў. Не ведаюць нацыянальнай сімволікі, нацыянальных святаў. Быў выпадак, калі адзін з кандыдатаў у парламент памылкова перагарнуў нацыянальны сцяг, атрымаўся як расійскі. Ніхто не заўважыў. Ноччу перагарнуў — і зноўку ніхто не заўважыў.

Супярэчліва, па выніках сацыялагічных апытанняў, выглядаюць і адносіны да праблемы Косава: пераважная большасць людзей хацела б, каб Косава было ў складзе Сербіі, але тая ж большасць лічыць, што яно страчана назаўжды.

Іншымі словамі, агрэсіўны нацыяналізм быў узрошчаны выключна па волі правячай палітычнай эліты, і яго трансфармацыя ў нацыяналізм дэмакратычны пры наяўнасці адпаведнай палітычнай волі, цалкам магчымы.

## Напрамак — Еўрасаюз

Рашэнне Сербіі аб уступленні ў Еўрасаюз, на мой погляд, ёсць таму самым відавочным пацвярджэннем і адначасова самым значным крокам да пераасэнсавання сербскай нацыянальнай ідэі. Нягледзячы на цэлы комплекс супярэчлівых фактараў, што атачае гэта рашэнне.

Рашэнне прынялі тыя самыя партыі, што выйгралі выбары на нацыяналістычных лозунгах, што пераконвалі людзей у заганнасці еўрапейскіх каштоўнасцей. І да таго ж, прынялі пераадолеўшы дастаткова моцнае супраціўленне праваслаўнай царквы. «А выйграўшы, — падкрэсліла старшыня грамадскай арганізацыі «Абаронцы правоў чалавека» Наталля Братулевіч, — не пабаяліся сказаць, што Косава прайграна і трэба ісці ў ЕС». І дадала: «Мы ж змагаліся за гэту ідэю 20 гадоў. Але мы не забываем, кім яны былі і кім зноў могуць стаць».

У гэтай высснове — фіксацыя супадзення інтарэсаў і разам з тым недавер, трывога, каб гэтае рашэнне не аказалася ўсяго толькі тактычным манёўрам пад ціскам цяжкага стану эканомікі (па дадзеных Інстытута статыстыкі, беспрацоўе дасягае 24 працэнтаў) Сербіі і патрабаванняў ЕС — прызнання Косава пад умовы прадстаўлення крэдытаў.

Але застаецца фактам, што насельніцтва ў большасці сваёй падтрымлівае ўступленне Сербіі ў ЕС. Хаця з пэўнай амплітудай хістанняў. Прычым падтрымка гэта матывуецца спадзяваннямі на лепшае жыццё, што натуральна. Але яно абцяжарана старой ідэяй аб сербах як адвечных ахвярах. З гераічнай гэта ідэя мадыфікавалася ва ўтрыманскую: калі мы ахвяры — усе вінаватыя нам.

На гэта я пачуў жорсткую высноуву з вуснаў Дэяна Іліча: палітыкі замест фармавання філасофіі напружанай працы ў сваіх папуліцкіх абяцанніх людзям і сваёй палітыкай выпрошвання крэдытаў дзе заўгодна і ад каго заўгодна, фарміруюць філасофію жабрацтва.

Тым не менш, на мой погляд, пры ўсіх складанасцях, менавіта ўступленне ў Еўрасаюз адкрывае для Сербіі акно магчымасцей незваротнай трансфармацыі агрэсіўнай нацыянальнай ідэі ў дэмакратычную стваральную, аб'ядначую ідэю.

На маё пытанне, наколькі аптымістычная такая перспектыва, спадарыня Дубраўка Стаянавіч адказала так: «Гэта залежыць ад інтэграцыі ў Еўропу, ад пераадолення Еўропай крызісу, ад таго, наколькі хутка людзі ў Сербіі адчуюць, што ім стала лепш».

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# РЭКВІЕМ ПА МАДЭРНІЗАЦЫІ

Сяргей НІКАЛЮК

**Моцная, але неправавая дзяржава не здольная забяспечваць доўгачасовы эканамічны рост.**



Тым, хто ў мітусні паўсядзённых спраў забыў, што азначае дзень 7 лістапада ў найноўшай гісторыі Беларусі, нагадаю цытату з Паслання–2013: *«Программа модернизации деревообработки, когда она начнет работать с хорошей прибылью, закончится к 7 ноября этого года. Это тот рубеж, когда мы народу должны явить примеры достойной работы»*.

Я рэгулярна праглядаю навіны ў інтэрнэце, але дэманстрацыі народу прыкладаў годнай працы, звязаных з рэалізацыяй вышэйзгаданай праграмы, апошнім часам штосьці не прыгадваю. Аднак у мяне не паўстала праблем з пошукам прыкладаў нявартай працы. Абмяжуюся апошнім, пра які паведаміла БЕЛТА напярэдадні знамянальнай даты: «КДК Брэсцкай вобласці выявіў шматлікія парушэнні ў замежнаэканамічнай дзейнасці ЗАТ «Холдынгавая кампанія «Пінскдрэў». Падчас праверкі высветлена, што па 339 пастаўках пры экспарце тавараў на суму больш за 100 мільёнаў расійскіх рублёў на адрас 24 нерэзідэнтаў «Пінскдрэў» не забяспечыў своечасовае завяршэнне замежнагандлёвых аперацый».

## Раніцай — грошы, увечары — крэслы

Словы «мадэрнізацыя» ў Пасланні–2013 згадваецца 49 разоў! І не дзіўна, што мадэрнізацыя эканомікі нароўні з інфарматызацыяй грамадства і маштабным прыцягненнем моладзі да дзяржаўнага будаўніцтва разглядаліся адзіным палітыкам (АП) у красавіку бягучага года ў якасці трох магутных нацыянальных праектаў, *«которые позволят обновить государство»*.

Пры гэтым АП рашуча адпрэчыў абвінавачванні апанентаў («пятай калоны») у тым, што *«власти прибегли к новому предвыборному лозунгу. И, мол, все ограничится пустыми разговорами»*. Не магу ўтрымацца, каб не прывесці яшчэ адну цытату: *«Они* (апаненты — С. Н.) *приходят к странному выводу: якобы потенциал роста конкурентоспособности белорусской продукции исчерпан и в абсолютном выражении идет деградация нашей экономики. Поэтому, мол, нужно не модернизировать ее, а просто выбросить и принять кардинально иную модель»*.

Мяркуючы па заявах чальцоў урада, лагер прыхільнікаў *«странных выводов»* за апошнія месяцы істотна папоўніўся, прычым за кошт… чальцоў урада. Як тут ні прыгадаць заяву кіраўніка Нацыянальнага статыстычнага камітэта Уладзіміра Зіноўскага з нагоды нулявой вагі інавацыйнай прадукцыі, прынцыпова новай для сусвету, у выпуску Мінпрама. І гэта нягледзячы на маштабную мадэрнізацыю!

Міністр эканомікі Мікалай Снапкоў не менш рашуча ліў ваду на млын апанентаў. Прыгадаем яго словы: «Дададзены кошт у цэлым па Мінпраме на гэты момант у 5 разоў ніжэй, чым у нашых канкурэнтаў. Гэта звязана найперш з выдаткамі на навуковыя даследаванні і распрацоўкі, якія не перавышаюць 0,5% ад выручкі ($4 мільёны). У той жа час такі канкурэнт, як «Джон Дзір», выдаткоўвае штогод 4–5% ад валавога прыбытку, што адпавядае $0,5–1,2 мільярда. Адпаведна, ён з'яўляецца адным з лідараў у інавацыйных тэхналогіях».

Без грошай паставіць на паток вытворчасць інавацыйных тэхналогій, зразумела, немагчыма. Тут як у вядомай гісторыі, апісанай Іллёй Ільфам і Яўгенам Пятровым у знакамітым рамане: «раніцай — грошы, увечары — крэслы».

Сучасны эканамічны рост заснаваны на мадэлі навукова-тэхнічнага прагрэсу (НТП). Першымі яе асвоілі еўрапейцы, але для гэтага ім трэба было прайсці праз стагоддзе рэлігійных войнаў паміж каталікамі і пратэстантамі. Нягледзячы на шматлікія ахвяры выявіць пераможцаў у тых войнах так і не атрымалася. Але менавіта гэты факт і прызнаецца сёння ў якасці галоўнага выніку рэлігійных войнаў. Ён ліквідаваў манапалізм царквы на праўду, што дазволіла, у прыватнасці, адмяніць забарону на збіранне банкаўскага працэнта. Такім чынам, была знятая галоўная перашкода на шляху фармавання сучаснай фінансавай сістэмы.




## Нішто сабе карэктовачка!

Перафразую класікаў: раніцай — грошы, увечары — інавацыі. Аднак сам факт наяўнасці грошай аўтаматычна не вядзе да стварэння інавацыі. Справядлівасць гэтай высновы прэм'ер-міністр Міхаіл Мясніковіч праілюстраваў на лютаўскім пасяджэнні Саўміна. Паводле агучанай другой асобай дзяржавы інфармацыі, за сем гадоў у прамысловасць Беларусі ўкладзена $31,5 мільярда інвестыцый, а атрымана дададзенага кошту толькі на $19,2 мільярда.

Але ж планы будаваліся напалеонаўскія. Іх ініцыятары выходзілі з разліку, што *«каждый вложенный рубль инвестиций должен давать 2–3 рубля добавленной стоимости»*. Але рубель не апраўдаў ускладзеных на яго надзей. Адказваць жа за яго няздольнасць укладваецца ў «беларускую мадэль эканамічнага развіцця» сёння даводзіцца чыноўнікам, у тым ліку і тым, што займаюць вышэйшыя дзяржаўныя пасты.

Мне ўжо неаднаразова даводзілася адзначаць, што асноўнае пытанне любой мадэрнізацыі — гэта пытанне яе суб'екта. У рамках айчыннай мадэлі такім з'яўляецца чыноўнік ужо ў сілу таго факту, што функцыянаванне айчыннай мадэлі не прадугледжвае існавання іншых суб'ектаў. Яна монасуб'ектна па сваёй прыродзе.

Тут самы час звярнуцца па дапамогу да сацыёлага Георгія Сатарава: «Рухацца наперад можна толькі на дзвюх нагах. А ў нас нага пад назвай «улада» лічыць нагу пад назвай «грамадства» чымсьці лішнім і цяжкім. А ў выніку мы з-за гэтага адчуваем сябе нейкімі адсталымі. Ёсць краіны перадавога фронту, яны ідуць у будучыню, а мы дзесьці ў другім і трэцім эшалоне. Але знаходжанне ў перадавой хвалі забяспечваецца толькі рухам на дзвюх нагах. Прычым першы крок у будучыню робіць менавіта грамадства».

Да чаго можна даскакацца на адной назе? Мой варыянт адказу — да рэвалюцыйнай сітуацыі. Нагадаю яе вызначэнне ў ленінскай трактоўцы: «Для рэвалюцыі недастаткова таго, каб нізы не хацелі жыць, як раней. Для яе неабходна яшчэ, каб вярхі не маглі гаспадарыць і кіраваць, як раней».

Што такое эфектыўная ўлада (эфектыўныя вярхі)? Гэта ўлада, якая ставіць перад сабой задачы і выконвае іх, ці, кажучы словамі АП, гэта ўлада, здольная народу *«явить примеры достойной работы»*.

Пасля трэціх прэзідэнцкіх выбараў папаўняць спіс такіх прыкладаў *«достойной работы»* ва ўлады атрымоўвалася з кожным годам усё горш, а пасля чацвёртых — справа зусім застапарылася. Для таго, каб у гэтым пераканацца, дастаткова адкрыць Праграму сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 2011–2015 гады, ухваленую чацвёртым Усебеларускім народным сходам.

Абмяжуюся адным прыкладам: у 2015 годзе запланавана пабудаваць 9,5–10 мільёнаў квадратных метраў жылля. План на бягучы год — 6,5 мільёна квадратных метраў. Выкананы ён будзе працэнтаў на 70. Гэта не мая здагадка. Гэта ўдакладнены ў кастрычніку прагноз урада. Але ў 2014 годзе наша выканаўчая ўлада плануе пабудаваць 2,5 мільёна квадратных метраў. Нішто сабе карэктовачка!

## Моцная, але неправавая

10 кастрычніка ўрад і Нацбанк зацвердзілі план сумесных дзеянняў па структурным рэфармаванні і падвышэнні канкурэнтаздольнасці нацыянальнай эканомікі. Запаветнае слова згадваецца ў плане толькі адзін раз, але не ў сувязі з мадэрнізацыяй прадпрыемстваў. Структурныя рэфарматары вырашылі капнуць глыбей і з дапамогай праграмы мадэрнізацыі сацыяльна-эканамічных адносін сфармаваць сучасныя інстытуты доўгатэрміновага эканамічнага росту. На распрацоўку праграмы яны адвялі амаль год.

Беларуская дзяржава валодае ўнікальным досведам будаўніцтва не толькі свінафермаў, малочных комплексаў і эфектыўных дрэваапрацоўчых прадпрыемстваў, але і інстытутаў. У першую чаргу сілавых, чыёй асноўнай задачай з'яўляецца прыгнечанне працэсаў самаарганізацыі грамадства. У выніку слабую неправавую дзяржаву пачатку 90-х, калі ўлада *«буквально валялась в грязи»*, атрымалася пераўтварыць у моцную неправавую дзяржаву.

Але прыметнік «моцны» не з'яўляецца сінонімам прыметніка «эфектыўны», што і прадэманстраваў АП 8 лістапада падчас наведвання ААТ «Барысаўдрэў».

Асноўныя ўмовы эканамічнага росту былі сфармуляваныя яшчэ Адамам Смітам: мір, нізкія падаткі і разумныя законы. Дынамічнаму эканамічнаму росту, які пачаўся на мяжы XVIII–XIX стагоддзяў, папярэднічалі тысячагоддзі эканамічнай стагнацыі.

Карціна пачала змяняцца толькі пасля таго, як у Еўропе склалася сітуацыя, якую нобелеўскі лаўрэат Дуглас Норт назваў «звязаныя рукі ўлады», — г. зн. адбыўся падзел уласнасці і ўлады.

Пры гэтым кожны атрымаў сваё: бізнэсмэн — разам з правам аднаасобна распараджацца сваёй уласнасцю адказнасць за яе эфектыўнае выкарыстанне, а дзяржава — адказнасць за знешнюю бяспеку краіны, за правапарадак, за ажыццяўленне правасуддзя, за сацыяльную абарону.

Менавіта з гэтага часу і адбываецца паскарэнне тэмпаў росту душавога валавога ўнутранага прадукту ў дзясяткі разоў у параўнанні з усім, што адбывалася на працягу папярэдніх тысячагоддзяў.

Для замацавання сказанага вышэй працытую нямецкага палітолага Ральфа Дарэнторфа: «Перадумова сучаснага эканамічнага росту — наяўнасць элементарных грамадзянскіх правоў. Сіла грамадзянскага статусу павінна пачаць дзейнічаць, каб мог заквітнець капіталізм, хоць бы таму, што сучасная працоўная дамова прадугледжвае роўнасць перад законам».

***

8 лістапада на недагледжанай тэрыторыі ААТ «Барысаўдрэў» прагучалі магутныя акорды «Рэквіема па мадэрнізацыі» (ад лацінскага «requiem» — літаральна «на спачын» — памінальная служба ў каталіцкай і лютэранскай цэрквах, адпавядае памінальнай літургіі ў праваслаўнай царкве). Але «Рэквіем па мадэрнізацыі» не варта разглядаць у якасці самастойнага музычнага твора. Ён — усяго толькі ўверцюра «Рэквіему па сацыяльных абавязках дзяржавы, прынятых на чацвёртым Усебеларускім народным сходзе».

Беларускаму грамадству на ўсведамленне наступстваў «музычнай» прэм'еры спатрэбіцца час. Спадзяюся, што не больш за 3–4 месяцы.

7

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ

## 18 ЛІСТАПАДА, ПАНЯДЗЕЛАК

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.15** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** У цэнтры ўвагі.
**10.00** Псіхалагічная драма «Сола на саксафоне» (Расія).
**12.10** Дзень у вялікім горадзе.
**13.20** Клуб рэдактараў.
**14.10** Вакол планеты.
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Журналісцкае расследаванне.
**15.55** Заўтра - гэта мы!
**16.25** Усё як мае быць!
**16.50** Меладрама «Васількі для Васілісы» (Расія).
**19.20** Арэна.
**19.40, 22.55** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.55** Форум.
**21.00** Панарама.
**21.45** Прэм'ера! Авантурны дэтэктыў «Шулер» (Расія - Украіна). 1-я серыя.
**23.30** Дзень спорту.
**23.45** Крымінальны баявік «Прафесіянал» (ЗША).

### Н

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** Контуры.
**10.05** «Жыць здорава!».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**12.10** «Самы лепшы муж».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Зваротны адлік».
**19.00** «Чакай мяне».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Ток-шоў «Пазіцыя».
**22.05** «Жыць у кайф». Канцэрт Макса Каржа.
**23.30** Містычны трылер «Омэн».
**01.30** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**09.40** «Вялікі сняданак».
**10.20** «Далёкія сваякі».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Такі лёс».
**12.30** «Джэймі: у пошуках смаку».
**13.00** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**13.50** «Вялікі горад».
**14.30** «Зорны рынг. Новы сезон.
**15.45** «Іншая краіна».
**16.20** «Наша справа».
**16.50** «Згодна з законам».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Вялікія таямніцы. Жыццё ў Сусвеце».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**20.30** Фільм «Апошняе завяшчанне Нобеля» (Швецыя, 2011 г.).
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Ваенная таямніца».
**00.45** «Адмірал». Серыял.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Двое з куфра» (Расія).
**10.10** Навіны надвор'я.
**10.50** Дэтэктыўны серыял «Следства вядзе Да Вінчы» (Канада).
**12.00** Пад грыфам «Вядомыя».
**12.35** Фільм «Незвычайныя прыгоды Карыка і Валі» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**14.50** Баявік «Механік» (Расія).
**16.40** Беларуская часіна.
**17.55** Серыял «Двое з куфра» (Расія).
**18.55** Рамантычная камедыя «Больш, чым каханне» (ЗША).
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Камедыйны серыял «Інтэрны».
**23.05** Камедыйна-парадыйны серыял «Рэальныя мальцы» (Расія).
**00.05** Дэтэктыўны серыял «Следства вядзе Да Вінчы» (Канада).

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.30** «Дабраранак».
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05** «Год у гісторыі».
**08.20** «Аляксандр Мядзведзь». Чалавек-легенда. Дакументальны фільм пра трохразовага чэмпіёна Алімпійскіх гульняў.
**08.55** «Лабірынты». Край за небакраем. Гісторыя мястэчка Сапоцкін.
**09.20** «Росчырк часу». Брэсцкія кавалі.
**09.35** «Раскол». 5-я серыя.
**10.25** «Дыя@блог». «Пра мову».
**10.55** «Трактарысты». Мастацкі фільм.
**12.15** «Калейдаскоп».
**12.20** «Год у гісторыі».
**12.35** «Святло далёкай зоркі». Памяці скульптара, народнага мастака БССР Андрэя Бембеля.
**13.05** «Аўтограф».
**13.30** «Адступнік». Дакументальны фільм пра кінарэжысёра Валерыя Рубінчыка.
**14.00** «Цуды прыроды». Лаос. Ісландыя.
**14.25** «Палескі пачастунак». Кулага і фаршыраваная бульба.
**14.40** «На беразе ракі Фантанкі». Дакументальны фільм пра жыццё і творчасць рускага паэта Міхаіла Дзяржавіна.
**15.15** «Крыж на зямлі і поўня ў небе». Мастацкі фільм.
**16.40** «Наперад у мінулае».
**17.10** «Камертон». Дзмітрый Салярцінскі.
**17.35** «Сінематэка». Факультэт экранных мастацтваў.
**18.20** «Скарбніца Берасцейшыны». Старажытнае Бярэсце.
**18.50** «Аляксей Саўрасаў». Дакументальны фільм пра жыццё і творчасць рускага мастака-передзвіжніка.
**19.10** «Калейдаскоп».
**19.20** «Падкідыш». Мастацкі фільм.
**20.30** Калыханка.
**20.50** «Магіла льва». Мастацкі фільм.
**22.00** «Дыя@блог». «Пра мову».
**22.25** «Раскол». 6-я серыя.
**23.20** «Аўтограф».
**23.45** «Святло далёкай зоркі». Памяці скульптара, народнага мастака БССР Андрэя Бембеля.
**00.10** «Калейдаскоп».
**00.20** «Год у гісторыі».

### РОССИЯ

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.00** «Карціна свету».
**10.55** Надвор'е на тыдзень.
**11.00, 14.00, 17.00, 20.00** Весткі.
**11.30** «Ранішняя@пошта».
**12.00** «Прамы эфір».
**13.00** «Маланка-забойца».
**13.50, 16.50, 19.50, 22.30** Навіны - Беларусь.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** «Адмысловы выпадак».
**17.10** «Шукальнікі».
**18.05** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**18.55** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**20.40** Тэлесерыял «Пілот міжнародных авіяліній».
**22.40** Серыял «Земскі доктар. Вяртанне».
**00.30** «Шум зямлі».

### НТВ

**06.00** «НТБ раніцай».
**08.40, 10.20** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**11.00** «Да суда».
**11.55** «Суд прысяжных».
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** «Справа лекараў».
**15.15** «Справа густу».
**15.40, 18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.40** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**19.35** Вострасюжэтны серыял «Шэф-2».
**21.25** Серыял «Пятніцкі. Глава трэцяя».
**23.10** Сёння. Вынікі.
**23.35** Серыял «Гульня».

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Зона «Свабоды». Погляд на Беларусь журналістаў радыё «Свабода».
**07.30** «Алег Бябенін: Я застануся», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**07.50** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**08.15** «Дом», серыял: 10 серыя.
**18.00** «Кароль-вінароб», серыял: 4 серыя.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Пінгвінік Пік-Пок», мульсерыял.
**19.00** Навіны.
**19.15** Агляд медыяў.
**19.20** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: Агляд падзеяў культуры.
**19.25** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: Дэвайс.
**19.30** Навіны.
**19.40** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**19.55** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: рэпартаж «Euronews».
**20.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: Навіны.
**20.30** Два на два (тэледыскусія ад Паўла Мажэйкі ды Дзмітрыя Гурневіча): Дар'я Каткоўская і Яўген Ліпковіч: Якія справы можна «раскруціць» праз інтэрнэт? І ў чым місія беларускіх блогераў?.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Фільматэка майстроў: «Непахаваны», маст. фільм, 2004 г., Польшча–Славакія–Венгрыя.
**23.30** Невядомая Беларусь: «Цівалі», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**00.05** Аб'ектыў.

## 19 ЛІСТАПАДА, АЎТОРАК

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.30** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Серыял «Сэрца Мары» (Расія).
**10.05** Серыял «Такое звычайнае жыццё» (Расія).
**11.00** Дак. цыкл «Будзь у тонусе».
**12.10** Дзень у вялікім горадзе.
**13.20** Авантурны дэтэктыў «Шулер» (Расія - Украіна). 1-я серыя.
**14.25** Terra incognita. Беларусь невядомая.
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Арэна.
**15.45** Серыял «Джамайка».
**16.50** «Здароўе». Ток-шоў.
**17.35** Серыял «Сэрца Мары» (Расія).
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 23.10** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.55** Серыял «Такое звычайнае жыццё».
**21.00** Панарама.
**22.00** Авантурны дэтэктыў «Шулер» (Расія - Украіна). 2-я серыя.
**23.45** Дзень спорту.
**00.00** Сфера інтарэсаў.
**00.20** Серыял «Джамайка».

### Н

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**12.10** «Самы лепшы муж».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Наша Белараша».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Драма «Дзённік памяці».
**23.20** «У доме бацькі».
**00.55** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**09.00** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**09.15** «Вялікія таямніцы. Жыццё ў Сусвеце».
**10.15** «Глядзець усім!».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**12.30** «Джэймі: у пошуках смаку».
**13.00** «Цэнтральны рэгіён».
**13.50** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**14.05** Сузычнае шоў краіны «Гарады, што спяваюць». Паўфінал.
**16.05** «Далёкія сваякі».
**16.50** «Згодна з законам».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Нам і не снілася».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**20.30** Фільм «Фантоцы бярэ рэванш» (Італія, 1990 г.).
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Жывая тэма».
**00.00** «Аўтапанарама».
**00.25** «Адмірал». Серыял.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Двое з куфра» (Расія).
**10.15** Цела чалавека.
**10.55** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**11.50** Серыял «Следства вядзе Да Вінчы».
**12.55** Вышэй за дах.
**13.55** Камедыйны серыял «Інтэрны».
**15.30** Камедыйна-парадыйны серыял «Рэальныя мальцы» (Расія).
**16.40** Беларуская часіна.
**17.55** Серыял «Двое з куфра» (Расія).
**18.55** Хакей. КХЛ.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Камедыйны серыял «Інтэрны».
**23.00** Камедыйна-парадыйны серыял «Рэальныя мальцы» (Расія).
**23.55** Футбол. U-21. Адборачны матч. Беларусь - Арменія.

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.30** «Дабраранак».
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05** «Год у гісторыі».
**08.20** «Свет прыроды». Заказнік «Казьяны».
**08.55** «Творцы». Скульптар Іван Міско.
**09.35** «Раскол». 6-я серыя.
**10.25** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**10.55** «Падкідыш». Мастацкі фільм.
**12.00** «Калейдаскоп».
**12.10** «Год у гісторыі».
**12.25** «Святло далёкай зоркі». Памяці мастака Антона Бархаткова.
**12.50** «Аўтограф».
**13.25** «Скарбніца Міншчыны». Касцёл у Будславе.
**13.50** «І смех, і бяда». Кароткаметражны фільм.
**14.30** «Невядомы Напалеон». Прыступкі да трона.
**15.00** «Найменні і вобразы». Разьбярства.
**15.15** «Магіла льва». Мастацкі фільм.
**16.35** «У рэху імені твайго...» Бона Сфорца.
**16.50** «Цуды прыроды». Коста-Рыка. Кенія.
**17.15** «Я кахаю цябе...» Вершы Н. Мацяш.
**17.35** «Камертон». Любоў Казарноўская.
**18.00** «Карані».
**18.35** «Імгненні музейнай цішыні». Дакументальны фільм.
**18.55** «Калейдаскоп».
**19.05** «Сэрцы чатырох». Мастацкі фільм.
**20.30** Калыханка.
**20.50** «Вянок санетаў». Мастацкі фільм.
**22.10** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**22.40** «Раскол». 7-я серыя.
**23.30** «Аўтограф».
**00.00** «Святло далёкай зоркі». Памяці мастака Антона Бархаткова.
**00.25** «Калейдаскоп».
**00.30** «Год у гісторыі».

### РОССИЯ

**07.00** «Раніца Расіі».
**11.00, 14.00, 17.00, 20.00** Весткі.
**11.30** «Прамы эфір».
**12.40** Тэлесерыял «Справа следчага Мікіціна».
**13.50, 16.50, 19.50, 22.30** Навіны - Беларусь.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** «Адмысловы выпадак».
**17.10** Тэлесерыял «Права на праўду».
**18.05** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**18.55** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**20.40** Тэлесерыял «Пілот міжнародных авіяліній».
**22.40** Серыял «Земскі доктар. Вяртанне».
**00.30** «Адмысловы карэспандэнт».

### НТВ

**06.00** «НТБ раніцай».
**08.40, 10.20** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**11.00** «Да суда».
**11.55** «Суд прысяжных».
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** «Справа лекараў».
**15.10** «Справа густу».
**15.40, 18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.40** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**19.35** Вострасюжэтны серыял «Шэф-2».
**21.25** Серыял «Пятніцкі. Глава трэцяя».
**23.10** Сёння. Вынікі.
**23.35** Серыял «Гульня».

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.30** Два на два (тэледыскусія ад Паўла Мажэйкі ды Дзмітрыя Гурневіча): Дар'я Каткоўская і Яўген Ліпковіч.
**08.55** Аб'ектыў.
**18.00** «Гульня ў вайнушку», дак. фільм, 2009 г., Польшча.
**18.40** Моўнік (лінгвістычная праграма): Беларусь – Ірландыя: моўныя паралелі.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Прыгоды Ціўкі».
**19.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**19.15** Агляд медыяў.
**19.20** Агляд падзеяў культуры.
**19.25** Рэпартаж «Euronews».
**19.30** Навіны.
**19.40** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**19.50** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: рэпартаж «Euronews».
**20.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: Навіны.
**20.30** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**20.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Грамадзянская вайна 2-й пал. XVII ст.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** «Тэра постсаветыка. Грузінская паліцыя», дак. фільм, 2012 г., Польшча.
**21.50** «Белая візітоўка», серыял: 3 серыя.
**22.50** Аб'ектыў.

## 20 ЛІСТАПАДА, СЕРАДА

### БЕЛАРУСЬ 1

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.30** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Серыял «Сэрца Марыі» (Расія).
**10.05** Меладраматычны серыял «Такое звычайнае жыццё» (Расія).
**11.00** Дак. цыкл «Будзь у тонусе».
**12.10** Дзень у вялікім горадзе.
**13.20** Авантурны дэтэктыў «Шулер» (Расія - Украіна). 2-я серыя.
**14.30** Terra incognita. Беларусь невядомая.
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Серыял «Джамайка».
**16.35** Зямельнае пытанне.
**17.05** БеларусьLIFE.
**17.35** Серыял «Сэрца Марыі» (Расія).
**19.20** Адмысловы рэпартаж.
**19.40, 23.10** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.55** Серыял «Такое звычайнае жыццё».
**21.00** Панарама.
**22.00** Авантурны дэтэктыў «Шулер» (Расія - Украіна). 3-я серыя.
**23.50** Дзень спорту.
**00.00** Адмысловы рэпартаж.
**00.20** Серыял «Джамайка».

### ОНТ

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**12.10** «Самы лепшы муж».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Наша Беларашa».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Сляды апосталаў».
**23.35** Фільм «Белая ноч, пяшчотная ноч...».
**01.35** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**09.00** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**09.15** «Нам і не снілася».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**12.30** «Джэймі ў сябе дома».
**13.00** «Мінск і мінчане».
**13.50** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**14.05** Фільм «Фантоцы бярэ рэванш» (Італія, 1990 г.).
**15.40** «Жывая тэма».
**16.50** «Згодна з законам».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Нам і не снілася».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**20.30** Фільм «Красуні» (Францыя, 1998 г.).
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**00.00** «Дабро пажалаваць».
**00.25** «Адмірал». Серыял.

### БЕЛАРУСЬ 2

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Двое з куфра» (Расія).
**10.15** Цудоўная сямёрка. Другі эпізод. Фігурнае катанне.
**10.50** Дэтэктыўны серыял «Следства вядзе Да Вінчы» (Канада).
**12.20** Драма "Я памятаю..." («Беларусьфільм»).
**14.05** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**15.35** Камедыйна-парадыйны серыял «Рэальныя мальцы» (Расія).
**16.40** Беларуская часіна.
**17.55** Серыял «Двое з куфра» (Расія).
**18.55** Прэм'ера. Ваенны баявік «Снайпер-2. Тунгус» («Беларусьфільм» - Расія). 1-я і 2-я серыі.
**20.40** Імперыя песні. На біс.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** Спортлато 5 з 36.
**21.30** КЕНО.
**21.35** Камедыйны серыял «Інтэрны».
**23.10** Камедыйна-парадыйны серыял «Рэальныя мальцы» (Расія).
**00.10** Дэтэктыўны серыял «Следства вядзе Да Вінчы» (Канада).

### БЕЛАРУСЬ 3

**07.30** «Дабраранак».
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05** «Галасы з мінулага».
**08.15** «Год у гісторыі».
**08.25** «Палёта вольное упорства...» Дакументальны фільм пра творчы шлях выдатнай балерыны, народнай артысткі СССР Маі Плісецкай.
**09.00** «Слуцкія паясы. Тайныя знакі». Дакументальны фільм.
**09.35** «Раскол». 7-я серыя.
**10.25** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**10.50** «Сэрцы чатырох». Мастацкі фільм.
**12.20** «Калейдаскоп».
**12.25** «Галасы з мінулага».
**12.30** «Год у гісторыі».
**12.45** «Свята далёкай зоркі». Памяці паэтэсы Яўгеніі Янішчыц.
**13.15** «Аўтограф».
**13.45** «Телевёрсты». Прафесія - рэжысёр.
**14.25** «Сямейны альбом». Сям'я Карачун.
**14.40** «Вочы вады». Ігар Шклярэўскі. Дакументальны фільм.
**15.15** «Вянок санетаў». Мастацкі фільм.
**16.45** «Таямніца душы». Гродзенская семінарыя.
**17.15** «Палескі пачастунак». Закалота.
**17.30** «Свет прыроды». Балота «Чарнецкі мох».
**18.00** «Палёта вольное упорства...» Дакументальны фільм пра творчы шлях выдатнай балерыны, народнай артысткі СССР Маі Плісецкай.
**18.30** «Калейдаскоп».
**18.35** «Галасы з мінулага».
**18.45** «Аляксандр Неўскі». Мастацкі фільм.
**20.30** Калыханка.
**20.50** «Гамлет Шчыгроўскага павету». Мастацкі фільм.
**22.05** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**22.35** «Раскол». 8-я серыя.
**23.25** «Аўтограф».
**23.50** «Свята далёкай зоркі». Памяці паэтэсы Яўгеніі Янішчыц.
**00.20** «Калейдаскоп».
**00.25** «Галасы з мінулага».
**00.30** «Год у гісторыі».

### РОССИЯ

**07.00** «Раніца Расіі».
**11.00, 14.00, 17.00, 20.00** Весткі.
**11.30** «Прамы эфір».
**12.40** Тэлесерыял «Справа следчага Мікітына».
**13.50, 16.50, 19.50, 22.30** Навіны - Беларусь.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** «Адмысловы выпадак».
**17.10** Тэлесерыял «Права на праўду».
**18.05** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**18.55** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**20.40** Тэлесерыял «Пілот міжнародных авіяліній».
**22.40** Серыял «Земскі доктар. Вяртанне».
**00.30** «Чорныя міфы пра Русь. Ад Івана Грознага да нашых дзён».

### НТВ

**06.00** «НТБ раніцай».
**08.40, 10.20** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**11.00** «Да суда».
**11.55** «Суд прысяжных».
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** «Справа лекараў».
**15.25** «Справа густу».
**15.40, 18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.40** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**19.35** Вострасюжэтны серыял «Шэф-2».
**21.20** Серыял «Пятніцкі. Глава трэцяя».
**23.10** Сёння. Вынікі.
**23.35** Серыял «Гульня».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.30** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**08.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальная праграма): Грамадзянская вайна 2-й пал. XVII ст.
**09.00** Аб'ектыў.
**17.50** «Агнём і мячом», серыял: 4 серыя.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Занатоўкі натураліста».
**19.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**19.15** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: Агляд медыяў.
**19.20** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: Агляд падзеяў культуры.
**19.25** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: рэпартаж «Euronews».
**19.30** Навіны.
**19.40** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**19.50** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: рэпартаж «Euronews».
**20.00** Навіны.
**20.30** Маю права (юрыдычная праграма). Што рабіць, калі дзяржава парушае вашыя правы?
**20.50** Моўнік (лінгвістычная праграма): Асцярожна, паронімы!.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** «Глыбокая вада–2», серыял: 11 серыя.
**22.10** Zeroes Heroes (рэтраспекцыя блізкай гісторыі): 2004-ы. Год гламуру.
**22.45** «Гульня ў вайнушку», дак. фільм, 2009 г., Польшча.
**23.25** Аб'ектыў.

## 21 ЛІСТАПАДА, ЧАЦВЕР

### БЕЛАРУСЬ 1

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.30** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**08.45** Слова мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча.
**09.10** Серыял «Сэрца Марыі» (Расія).
**10.05** Серыял «Такое звычайнае жыццё».
**11.00** Дакументальны цыкл «Будзь у тонусе» (Аўстралія). Заключныя серыі.
**12.10** Дзень у вялікім горадзе.
**13.20** Авантурны дэтэктыў «Шулер» (Расія - Украіна). 3-я серыя.
**14.30** Terra incognita. Беларусь невядомая.
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Серыял «Джамайка».
**16.30** Каробка перадач.
**17.00** Таямніцы следства.
**17.35** Серыял «Сэрца Марыі» (Расія).
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 23.10** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.55** Серыял «Такое звычайнае жыццё».
**21.00** Панарама.
**22.00** Авантурны дэтэктыў «Шулер» (Расія - Украіна). 4-я серыя.
**23.50** Дзень спорту.
**00.00** Сфера інтарэсаў.
**00.20** Серыял «Джамайка».

### ОНТ

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**12.10** «Самы лепшы муж».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Наша Беларашa».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Сляды апосталаў».
**23.25** «Сляды апосталаў. Пасляслоўе».
**00.15** Прэм'ера. «Дзень, калі забілі Кэнэдзі».
**01.15** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**09.15** «Нам і не снілася».
**10.05** «Дабро пажалаваць».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Слова жанчыне». Серыял. Заключная серыя.
**12.30** «Джэймі ў сябе дома».
**13.00** «Прыгоды дылетанта».
**13.50** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**14.05** Фільм «Красуні» (Францыя, 1998 г.).
**15.50** «Увявіце сабе».
**16.50** «Згодна з законам».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Нам і не снілася».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**20.30** Фільм «Адзінота крыві» (Расія, 2002 г.).
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**00.00** «Аўтапанарама».
**00.25** «Адмірал». Серыял.

### БЕЛАРУСЬ 2

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Двое з куфра» (Расія).
**10.15** Вышэй за дах.
**10.55** Дэтэктыўны серыял «Следства вядзе Да Вінчы» (Канада).
**12.05** Ваенны баявік «Снайпер-2. Тунгус» («Беларусьфільм» - Расія). 1-я і 2-я серыі.
**13.55** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**15.30** Камедыйна-парадыйны серыял «Рэальныя мальцы» (Расія).
**16.40** Беларуская часіна.
**17.55** Вострасюжэтны серыял «Двое з куфра» (Расія).
**19.00** Ваенны баявік «Снайпер-2. Тунгус» («Беларусьфільм» - Расія). Закл. серыі.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Камедыйны серыял «Інтэрны».
**23.05** Камедыйна-парадыйны серыял «Рэальныя мальцы» (Расія).
**00.05** Дэтэктыўны серыял «Следства вядзе Да Вінчы» (Канада).

### БЕЛАРУСЬ 3

**07.30** «Дабраранак».
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05** «Год у гісторыі».
**08.20** «Размовы пра духоўнае».
**08.25** «Цуды прыроды». Манголія. Гобі. Іярданія.
**08.55** «Палескі пачастунак». Лекавая сумесь.
**09.10** «Летуценні. Я.Драздовіча». Пра вядомага беларускага мастака.
**09.35** «Раскол». 8-я серыя.
**10.25** «Дыя@блог». «Пра вечнае».
**10.50** «Аляксандр Неўскі». Мастацкі фільм.
**12.35** «Калейдаскоп».
**12.45** «Год у гісторыі».
**13.00** «Свята далёкай зоркі». Памяці скульптара Аляксея Глебава.
**13.25** «Аўтограф».
**13.55** «Размовы пра духоўнае».
**14.00** «Росчырк часу». Шкляная нітка.
**14.15** «Лабірынты». Чарэя Оскара Мілаша.
**14.40** «Камертон». Хор Турэцкага.
**15.15** «Гамлет Шчыгроўскага павету». Мастацкі фільм.
**16.35** «Карані».
**17.05** «Свет прыроды». Лось.
**17.20** «Скарбніца Віцебшчыны». Вымаленыя словы. Пра аршанскі Іезуіцкі калегіум і Куцеінскі манастыр.
**17.45** «Маем рэчы». Куфар.
**18.05** «Зорка на спражцы». Кароткаметражны фільм.
**18.35** «Росчырк часу». Кніга Дамбавецкага.
**18.50** «Размовы пра духоўнае».
**18.55** «Калейдаскоп».
**19.05** «Свінарка і пастух». Мастацкі фільм.
**20.30** Калыханка.
**20.45** «Дзікае паляванне караля Стаха». 1-я і 2-я серыі.
**22.50** «Дыя@блог». «Пра вечнае».
**23.20** «Раскол». 9-я серыя.
**00.10** «Аўтограф».
**00.35** «Свята далёкай зоркі». Памяці скульптара Аляксея Глебава.
**01.05** «Калейдаскоп».
**01.10** «Год у гісторыі».

### РОССИЯ

**07.00** «Раніца Расіі».
**11.00, 14.00, 17.00, 20.00** Весткі.
**11.30** «Прамы эфір».
**12.40** Тэлесерыял «Справа следчага Мікітына».
**13.50, 16.50, 19.50, 22.30** Навіны - Беларусь.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** «Адмысловы выпадак».
**17.10** Тэлесерыял «Права на праўду».
**18.05** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**18.55** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**20.40** Тэлесерыял «Пілот міжнародных авіяліній».
**22.40** Серыял «Земскі доктар. Вяртанне».
**00.30** «Паядынак».

### НТВ

**06.00** «НТБ раніцай».
**08.35** «Выратавальнікі».
**09.05** «Медыцынскія таямніцы».
**09.35, 10.20** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**10.55** «Да суда».
**11.55** «Суд прысяжных».
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** «Справа лекараў».
**15.15** «Справа густу».
**15.40, 18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**19.35** Вострасюжэтны серыял «Шэф-2».
**21.20** Серыял «Пятніцкі. Глава трэцяя».
**23.10** Сёння. Вынікі.
**23.35** Серыял «Гульня».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.30** Маю права (юрыдычная праграма). Што рабіць, калі дзяржава парушае вашыя правы?
**08.50** Моўнік (лінгвістычная праграма): Асцярожна паронімы!
**09.00** Аб'ектыў.
**18.00** «Глыбокая вада–2», серыял: 11 серыя.
**18.40** Моўнік (лінгвістычная праграма): Шматмоўная Еўропа: ці гавораць бельгійцы па-бельгійску?
**18.50** Калыханка для самых маленькіх: «Матыльда».
**19.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**19.15** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: Агляд медыяў.
**19.20** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: Агляд падзеяў культуры.
**19.25** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: рэпартаж «Euronews».
**19.30** Навіны.
**19.40** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**19.50** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: рэпартаж «Euronews».
**20.00** Навіны.
**20.30** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** «Час гонару», серыял: 60 серыя.
**22.10** Маю права (юрыдычная праграма). Што рабіць, калі дзяржава парушае вашыя правы?
**22.35** «Партызанская школа», дак. фільм, 2002 г., Польшча.
**23.00** Аб'ектыў.

## 22 ЛІСТАПАДА, ПЯТНІЦА

### 1 Беларусь

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.10** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Меладраматычны серыял «Сэрца Марыі» (Расія).
**10.15** Меладраматычны серыял «Такое звычайнае жыццё» (Расія).
**11.25** Дакументальны фільм «Пра каханне...» («Беларусьфільм»).
**12.10** Дзень у вялікім горадзе.
**13.20** Авантурны дэтэктыў «Шулер» (Расія - Украіна). 4-я серыя.
**14.30** Terra incognita. Беларусь невядомая.
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Меладраматычны серыял «Джамайка» (Украіна - Расія).
**16.30** Прэм'ера! Дакументальны цыкл «Жыццё - праклятая роля» (Расія).
**17.30** Меладраматычны серыял «Сэрца Марыі» (Расія).
**19.20, 23.40** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**19.50** Меладраматычны серыял «Такое звычайнае жыццё» (Расія).
**21.00** Панарама.
**22.00** Прэм'ера! Трылер «Транзіт» (ЗША).
**00.30** Дзень спорту.
**00.40** Меладраматычны серыял «Джамайка» (Украіна - Расія).

### ОНТ

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Закрытая школа». Шматсерыйны фільм.
**12.10** «Самы лепшы муж».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** Прэм'ера. «Аляксей Баталаў».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «У наш час».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** АНТ прадстаўляе: «Чакай мяне. Беларусь».
**18.55** Поле цудаў.
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** АНТ прадстаўляе: «Вячэрні Мінск».
**22.25** АНТ прадстаўляе: «Што? Дзе? Калі? у Беларусі».
**23.40** Фільм «Лос-Анджэлеская гісторыя».
**01.25** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**09.15** «Нам і не снілася».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Эліксір маладосці».
**12.30** «Джэймі ў сябе дома».
**13.00** «Добры дзень, доктар».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**14.05** Фільм «Адзінота крыві» (Расія, 2002 г.).
**16.00** «Далёкія сваякі».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Згодна з законам».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Такі лёс».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**20.25** Фільм «Ананімныя рамантыкі» (Францыя - Бельгія, 2010 г.).
**22.00** Прэм'ера! СТВ прадстаўляе: вячэрняе шоў «На тым жа месцы ў той жа час».
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** Прэм'ера! СТВ прадстаўляе: вячэрняе шоў «На тым жа месцы ў той жа час». Працяг.
**23.50** «Ежа багоў».
**00.45** Еўрапейскі покерны турнір.
**01.35** Фільм «Эфект даміно» (Расія, 2009 г.).

### 2 Беларусь

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Вострасюжэтны серыял «Двое з куфра» (Расія).
**10.10** Пад грыфам «Вядомыя».
**10.55** Дэтэктыўны серыял «Следства вядзе Да Вінчы» (Канада).
**12.10** Ваенны баявік «Снайпер-2. Тунгус» («Беларусьфільм» - Расія). Заключныя серыі.
**14.00** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**15.35** Камедыйна-парадыйны серыял «Рэальныя мальцы» (Расія).
**16.40** Дакументальны серыял «Азбука добрага самаадчування» (Аўстралія).
**17.15** Беларуская кухня.
**17.55** Вострасюжэтны серыял «Двое з куфра» (Расія).
**18.55** Хакей. КХЛ. Прамая трансляцыя.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** «Бітва экстрасэнсаў». Шоў-праграма (Расія).
**22.40** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**23.30** Крымінальны трылер «Чысцільшчык» (ЗША).

### 3 Беларусь

**07.30** «Дабраранак».
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05** «Год у гісторыі».
**08.20** «Сінематэка». Цуд сінематографа.
**09.00** «Майстры і чаляднікі». Вышывальшчыцы.
**09.35** «Раскол». 9-я серыя.
**10.25** «Сіла веры».
**10.50** «Свінарка і пастух». Мастацкі фільм.
**12.15** «Калейдаскоп».
**12.20** «Год у гісторыі».
**12.35** «Свята далёкай зоркі». Памяці народнага артыста Беларусі Валерыя Філатава.
**13.00** «Аўтограф».
**13.35** «Цуд-волаты». Пра ўзбраенне і абмундзіраванне рускай арміі пачатку XIX стагоддзя.
**14.00** «Маэстра і аркестр». Міхаіл Фінберг.
**14.30** «Палескі пачастунак». Сыр.
**14.45** «Цуды прыроды». Мадэйра. Тайвань. Балі.
**15.15** «Дзікае паляванне караля Стаха». 1-я і 2-я серыі.
**17.20** «Адлюстраванні». Францішка Урсула Радзівіл.
**17.45** «Лабірынты». Маёнтак Талстых у Беларусі.
**18.15** «Скарбніца Берасцейшчыны». Ад калыскі да труны. Гісторыя і архітэктурныя помнікі мястэчка Воўчын.
**18.40** «Калейдаскоп».
**18.50** «Пётр І». Мастацкі фільм.
**20.30** Калыханка.
**20.50** «Адступнік». 1-я і 2-я серыі.
**23.25** «Сіла веры».
**23.55** «Раскол». 10-я серыя.
**0.40 «Аўтограф».**
**01.05** «Свята далёкай зоркі». Памяці народнага артыста Беларусі Валерыя Філатава.
**01.35** «Калейдаскоп».
**01.40** «Год у гісторыі».

### РОССИЯ телеканал

**07.00** «Раніца Расіі».
**11.00, 14.00, 17.00, 20.00** Весткі.
**11.30** «Прамы эфір».
**12.40** Тэлесерыял «Справа следчага Мікіціна».
**13.50, 16.50** Навіны - Беларусь.
**14.20** Дзённік Сочы 2014.
**14.25** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** «Адмысловы выпадак».
**17.10** Тэлесерыял «Права на праўду».
**18.05** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**18.55** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.40** Тэлесерыял «Пілот міжнародных авіяліній».
**22.30** Навіны - Беларусь.
**22.40** Серыял «Земскі доктар. Вяртанне».
**00.30** «Жывы гук».

### НТВ

**06.00** «НТБ раніцай».
**08.40, 10.20** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**11.00** «Да суда».
**11.55** «Суд прысяжных».
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** «Справа лекараў».
**15.15** «Справа густу».
**15.40, 18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**19.35** «Жыццё як песня: «Тату».
**21.15** Фільм «Пятля».
**22.55** Серыял «Гульня».
**00.40** «Авіятары».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.30** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**08.55** Аб'ектыў.
**18.00** «Ранча», серыял: 28 серыя.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Матыльда».
**19.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**19.15** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: Агляд медыяў.
**19.20** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: Агляд падзеяў культуры.
**19.25** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: Дэвайс.
**19.30** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: Навіны.
**19.40** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**19.50** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: рэпартаж Алеся Залеўскага.
**20.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: Навіны.
**20.25** Невядомая Беларусь: «Цівалі», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** «Дом», серыял: 11 серыя.
**23.00** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**23.30** Аб'ектыў.

## 23 ЛІСТАПАДА, СУБОТА

### 1 Беларусь

**07.00** 07.05 Камедыя «Аканом» (Расія).
**08.30** Існасць.
**09.00, 12.00, 15.00, 19.00** Навіны.
**09.10** Зямельнае пытанне.
**09.35** Сямейная камедыя «Ластаўчына гнязда» (Украіна). Заключныя серыі.
**12.10** Здароўе.
**13.00** Усё як мае быць!
**13.35** Нашы.
**13.45** Таямніцы следства.
**14.15** Вакол планеты.
**15.15** Навіны рэгіёна.
**15.30** Дакументальны цыкл «Жыццё - праклятая роля» (Расія).
**16.30** Давярай і правярай.
**17.00** Камедыя «Міс Петыгру жыве сённяшнім днём» (Вялікабрытанія - ЗША).
**18.35** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**19.10** Меладрама «Ружа развітальных вятроў» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.40** Спартовая драма «Ваяр» (ЗША).
**00.10** Дзень спорту.
**00.20** Сямейная камедыя «Ластаўчына гнязда» (Украіна). Заключныя серыі.

### ОНТ

**07.00** «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Смешарыкі». Новыя прыгоды.
**09.20** «Здароўе».
**10.25** «Смак».
**11.05** «Ідэальны рамонт».
**12.05** «Разумніцы і разумнікі».
**12.50** Прэм'ера. «Наталля Крачкоўская. Рэцэпт яе абаяння».
**13.50** «Вяпрук». Шматсерыйны фільм.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Абмен жонкамі».
**17.30** Фільм «Практычная магія».
**19.25** «Бацькоў у школу!».
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Сёння ўвечар».
**22.55** «Паспець да паўночы».
**23.35** Прэм'ера. «Біт-квартэт «Сакрэт»: 30 гадоў на біс!».

### СТВ

**06.30** «Next-2». Серыял.
**07.20** «Далёкія сваякі».
**07.50** Фільм «Ананімныя рамантыкі» (Францыя - Бельгія, 2010 г.).
**09.20** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**09.30** «Чыстая праца».
**10.30** «Уявіце сабе».
**11.30** «Мінск і мінчане».
**12.05** «Прыгоды дылетанта».
**12.40** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**13.40** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**13.50** Фільм «Жанчына дня» (СССР, 1989 г.).



**15.25** «Ваенная таямніца».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.40** СТВ прадстаўляе: вячэрняе шоў «На тым жа месцы ў той жа час».
**18.50** «Дзіўная справа».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** Музычнае шоў краіны «Гарады, што спяваюць». Паўфінал.
**22.10** СТВ прадстаўляе: «Зорны рынг. Новы сезон.
**23.25** Фільм «Эль Грэка» (Грэцыя - Іспанія, 2007 г.).
**01.25** «Глядзець усім!».

### 2 Беларусь

**07.50** Мультфільмы.
**08.20** Фільм-казка.
**09.25** Тэлебарометр.
**09.30** Вострасюжэтная драма «34-ы хуткі» (СССР).
**11.10** Беларуская кухня.
**11.50** «СуперІнтуіцыя. Бітва палоў». Забаўляльная шоў-праграма (Расія).
**13.00** «Бітва экстрасэнсаў». Шоў-праграма (Расія).
**14.10** Гандбол. Ліга чэмпіёнаў. «Барселона» - «Дынама-Мінск». Прамая трансляцыя.
**16.00** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**17.05** Гумарыстычная праграма «Жаночая ліга. Бананавы рай» (Расія).
**17.40** Гумарыстычная праграма «Жаночая ліга. Хлопцы. Грошы. Каханне» (Расія).
**18.10** «Імперыя песні». Народнае караоке-шоў.
**19.15** Ваша лато.
**19.55** Латарэя «Пяцёрачка».
**20.15** Цудоўная сямёрка. Другі эпізод. Фігурнае катанне.
**20.55** Тэлебарометр.
**21.00** КЕНО.
**21.05** Рамантычная камедыя «Ашуканцы» (Германія - ЗША).
**23.00** «СуперІнтуіцыя. Бітва палоў». Забаўляльная шоў-праграма (Расія).
**00.00** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).

### 3 Беларусь

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05** «Абіцель душы».
**08.35** «Кожны мае права быць розным». Дыялог у цемры.
**09.00** Дзіцячы фільм. «Рыжык у Зазяркаллі».
**11.10** «Наперад у мінулае».
**11.35** «Калейдаскоп».
**11.40** «Золата Грышына». Дакументальны фільм.
**12.10** «Крылатая вясёлка». Навукова-папулярны фільм.
**12.25** «Тысячагадовы Заслаўль». Дакументальны фільм.
**12.55** «Настальжы». Заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Сяргей Журавель.
**13.25** «Адзін з многіх...». Дакументальны фільм пра Мікалая Гірыловіча - жыхара вёскі Дальва, якую спасціг лёс Хатыні.
**13.40** «Мост». Дакументальны фільм пра масты Пецярбурга.
**14.05** «Карані».
**14.40** Прэм'ера. «Звоняць, адчыніце дзверы!» Творчасць рэжысёра, народнага артыста Расіі Аляксандра Міты.
**15.00** «Кветкі на раялі». Канцэрт савецкага і ўкраінскага кампазітара і спевака Ігара Дзямарына.
**16.20** «Калейдаскоп».
**16.25** «Шлях караля». 1-я і 2-я серыі.
**18.20** «Калейдаскоп».
**20.30** Калыханка.
**20.50** Сусветнае кіно. «Суседка».
**22.30** «Без права на дубль». Юрый Айзеншпіс.
**23.15** «АРТиШОК».
**23.45** «Калейдаскоп».

### РОССИЯ телеканал

**07.00** Фільм «Я падарую сабе цуд» (2010 г.).
**08.45** Фільм «Восеньскія клопаты» (2009 г.).
**10.25** «Ранішняя@пошта».
**11.00, 14.00** Весткі.
**11.15** «Суботнік».
**11.55** «Планета сабак».
**12.35** Лірычная камедыя «Амаль смешная гісторыя». 1977 г. 1-я серыя.
**14.15** «Сумленны дэтэктыў». Аўтарская праграма.
**14.50** «Таямніца егіпецкіх пірамід».
**15.50** Фільм «Мелодыя кахання» (2010 г.).
**17.40** «Суботні вечар».
**19.00** «Карціна свету».
**19.55** Надвор'е на тыдзень.
**20.00** Весткі ў суботу.
**20.45** «Танцы з Зоркамі». Сезон-2013.
**23.35** Фільм «Родны чалавек» (2012 г.).

### НТВ

**06.25** Серыял «Дарожны патруль».
**08.00, 10.00** Сёння.
**08.20** «Агляд».
**08.50** «Гатуем».
**09.25** «Справа густу».
**10.20** «Галоўная дарога».
**10.50** «Кулінарны паядынак».
**11.55** «Кватэрнае пытанне».
**13.00** Сёння.
**13.20** «Я худнею».
**14.20** «ДНК». Ток-шоў.
**15.10** Вострасюжэтны серыял «Важняк».
**16.45** «Следства вялі...».
**17.35** «Вочная стаўка».
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** «Цэнтральнае тэлебачанне».
**19.50** «Новыя рускія сенсацыі».
**20.55** «Ты не паверыш!».
**21.55** «Выспа».
**23.25** Вострасюжэтны фільм «Жорсткае каханне».
**01.15** «Ягор 360».
**01.45** «Прамень Святла».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок .
**08.25** Невядомая Беларусь: «Цівалі», дак. фільм, 2012 г., Беларусь .
**09.55** Аб'ектыў .
**18.00** Над Нёмнам (тэлечасопіс) .
**18.15** Без рэтушы: «Каліф на гадзіну», рэпартаж, 2010 г., Беларусь .
**18.40** Забавы «Ліпі і Мэсі» .
**18.50** Калыханка для самых маленькіх: «Пацукі» .
**19.00** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**19.30** «Белая візітоўка», серыял: 4 серыя.
**20.25** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма). Погляд на Беларусь журналістаў радыё «Свабода».
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне) .
**21.15** Суботні сеанс: «У Бога за пазухай», камедыя, 1998 г., Польшча .
**22.50** «Трэці афіцэр», дэтэктыўны серыял: 7 серыя.
**23.40** МакраФон: «Рок-карона: запісы 1997–1999 гг.»: ч. 4 .
**00.10** Аб'ектыў .

## 24 ЛІСТАПАДА, НЯДЗЕЛЯ

### 1 БЕЛАРУСЬ

**07.30** Камедыя «Самая абаяльная і прывабная» (СССР).



**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.35** Камедыйны серыял «9 месяцаў» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**11.30** Тэлестужка АТН.
**12.10** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**12.40** Каробка перадач.
**13.15** Заўтра - гэта мы!
**13.45** Terra incognita. Беларусь невядомая.
**14.15** Клуб рэдактараў.
**15.15** Навіны рэгіёна.
**15.30** Медычныя таямніцы.
**16.05** БеларусьLIFE.
**16.30** Давярай і правярай.
**17.00** Прыгодніцкі баявік «Скарб нацыі. Кніга таямніц» (ЗША).
**19.15** Камедыя «Аканом» (Расія).
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** Журналісцкае расследаванне.
**22.30** Прэм'ера! Фантастычны трылер «Суддзя Дрэд» (Вялікабрытанія - ЗША).
**00.15** Камедыйны серыял «9 месяцаў» (Расія). 1-я і 2-я серыі.

### ОНТ

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Смешарыкі. ПІН-код».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** «Пакуль усе дома».
**10.50** «Фазэнда».
**11.25** «Вясельны перапалох».
**12.25** АНТ прадстаўляе: «Брэйн-рынг».
**13.30** Прэм'ера. «Раманавы».
**14.35** «Чароўны меч». Анімацыйны фільм.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** АНТ прадстаўляе: «Эстрадны кактэйль».
**17.45** АНТ прадстаўляе: «Рассмяшы коміка».
**18.50** АНТ прадстаўляе: «Я люблю Беларусь!».
**20.00** Контуры.
**21.05** «Ледавіковы перыяд».
**00.05** Фільм «Маленькая Вера».

### СТВ

**06.30** «Next-2». Серыял. Заключная серыя.
**07.20** «100 адсоткаў».
**07.50** Фільм «Эль Грэка» (Грэцыя - Іспанія, 2007 г.).
**10.00** «Аўтапанарама».
**10.30** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**11.30** «Вялікі сняданак».
**12.10** «Добры дзень, доктар».
**12.45** Фільм «Яшчэ раз пра каханне» (СССР, 1967 г.).



**14.35** «Тэрыторыя памылак».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Аўтапанарама».
**17.20** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**17.55** Канцэрт М.Задорнава.
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Гульні запалу» (ЗША, 2010 г.).
**22.30** «Якія людзі».
**23.30** Фільм «Я» (Расія, 2009 г.).
**01.10** Дакументальны праект».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.55** Мультфільмы.
**08.50** Фільм-казка «Прынцэса на гарошыне» (СССР).
**10.20** Тэлебарометр.
**10.25** Рамантычная камедыя «Ашуканцы» (Германія - ЗША).
**12.20** Гумарыстычная праграма «Жаночая ліга. Бананавы рай» (Расія).
**12.55** Футбол. Чэмпіянат Рэспублікі Беларусь. «Дынама» (Мінск) - БАТЭ. Прамая трансляцыя.
**14.55** Гумарыстычная праграма «Жаночая ліга. Хлопцы. Грошы. Каханне» (Расія).
**15.30** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**16.50** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.
**17.25** Біятлон. Кубак свету. Змяшаная эстафета. Прамая трансляцыя.
**19.15** Суперлато.
**20.25** Навіны надвор'я.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Крымінальны баявік «Вясна ў Парыжы» (Францыя).
**23.05** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**00.05** Хакей. КХЛ.
**02.00** Спорт-кадр.

### 3 БЕЛАРУСЬ

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05** «Таямніца душы».
**08.35** «Кожны мае права быць розным». Шукаю сябра.
**09.00** «АРТиШОК».
**09.35** «Одной звезды я повторяю имя...» Дакументальны фільм пра ўраджэнца Беларусі, двойчы Героя Савецкага Саюза, лётчыка-касманаўта СССР Пятра Клімука.
**10.05** «Найменні і вобразы». Ткацтва.
**10.15** «Любча. Восем дзён лета». Дакументальны фільм.
**10.45** «Друзей моих прекрасные черты». Пра рэжысёра Валерыя Раеўскага.
**11.10** «Калейдаскоп».
**11.15** «Шлях караля». 1-я і 2-я серыі.
**13.10** «Калейдаскоп».
**15.30** «Без права на дубль». Юрый Айзеншпіс.
**16.15** Дзіцячы фільм. «Рыжык у Зазяркаллі».
**18.15** «Культпрасвет».
**18.50** Сусветнае кіно. «Суседка».
**20.30** Калыханка.
**20.50** Гала-канцэрт «Песні ваенных гадоў» у выкананні Вялікага сімфанічнага аркестра імя П.І.Чайкоўскага.
**22.25** «Культпрасвет».
**22.50** «Бацька». Спектакль Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Я.Коласа.
**00.40** «Калейдаскоп».

### РОССИЯ ТЕЛЕКАНАЛ

**07.00** Фільм «Лепшы сябар сям'і» (2011 г.).
**10.10** «Сам сабе рэжысёр».
**11.00, 14.00** Весткі.
**11.15** «Смехапанарама».
**11.45** «У свеце жывёл».
**12.20** Лірычная камедыя «Амаль смешная гісторыя» (1977 г.). 2-я серыя.
**14.15** Фільм «Родны чалавек» (2012 г.).
**16.10** Фільм «Кахаю, бо кахаю» (2012 г.).
**18.05** «Смяяцца дазваляецца». Гумарыстычная праграма.
**20.00** Весткі тыдня.
**21.25** Фільм «Вальс Бастон» (2013 г.).
**23.25** «Нядзельны вечар».

### НТВ

**06.25** Серыял «Дарожны патруль».
**08.00, 10.00, 13.00** Сёння.
**08.20** «Дзікі свет».
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Ямо дома!».
**10.20** «Дачны адказ».
**11.25** «Паедзем, паямо!».
**11.55** «Цуд тэхнікі».
**12.30** «Першая перадача».
**13.15** Фільм «Пятніцкі».
**15.10** Вострасюжэтны серыял «Важняк».
**16.45** «Следства вялі...».
**17.35** «Вочная стаўка».
**18.30** Надзвычайнае здарэнне. Агляд за тыдзень.
**19.00** «Сёння. Выніковая праграма».
**19.50** Прэм'ера. Вострасюжэтны фільм «Ганчакі: выйсця няма».
**23.20** «Як на духу».
**00.20** «Школа зласлоўя».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў .
**07.15** Казкі для дзетак: «Пінгвінік Пік-Пок», «Прыгоды Ціўкі» .
**07.40** «Эміль з Лённэбэр'і», серыял: 12 серыя.
**08.05** «Калі сэрца ў чаканні», серыял: 12 серыя.
**08.30** «У Бога за пазухай», камедыя, 1998 г., Польшча .
**18.00** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма). Погляд на Беларусь журналістаў радыё «Свабода».
**18.30** Моўнік (лінгвістычная праграма): Лексікаграфічныя дасягненні .
**18.40** Забавы «Ліпі і Мэсі» .
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Пацукі» .
**18.55** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча .
**19.25** «Час гонару», серыял: 61 серыя.
**19.15** Дакументальная гадзіна: «Мінск ад золку да змяркання», дак. фільм, 2011 г., Польшча .
**20.55** Фільматэка майстроў: «Вяселле», маст. фільм, 2004 г., Польшча .
**22.40** «Кароль-вінароб», серыял: 5 серыя.
**23.25** Вагон.

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы Час» немагчыма набыць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час» і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго, падпісацца можна ў офісе і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў.

Гомель (8 029) 697 82 75 Аляксандр;
Магілёў (8 029) 930 79 22 Міхась;
Мінск (8029) 178 31 68 Вольга;
Бабруйск (8029) 628 75 01 Вольга;
Слуцк (8029) 364 42 60 Зінаіда.

## Паважаныя чытачы!

Кошт аднаго нумара газеты — 2000 руб., аднаго месяца — 8000 руб. Дзякуй вам за разуменне і падтрымку!

Запрашаем да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

**Даведка па тэл. +375 29 986 38 05**

БЕЛПОЧТА ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐ № ______ (вход, по карте отправки)

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ____
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ____

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739
УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик
Пеня ______
Кассир Всего ______

САМІТ ЕС

# ПАСЛЯ ВІЛЬНЮСА — ХАЛОДНАЯ ВАЙНА

Алег НОВІКАЎ

**Хаця да гістарычнага саміта ў Вільнюсе яшчэ амаль два тыдні, палітолагі ўжо актыўна спрачаюцца наконт таго, якой будзе рэакцыя Расіі на падпісанне дамовы аб Асацыяцыі Украіны і Еўрасаюзу. Прапануем агляд аналітыкі.**



Пра тое, што лёсавызначальны дакумент усё ж падпішуць, гавораць шмат фактараў. Па-першае, калі меркаваць па сацыялагічных замерах, усіх украінцаў папросту дастала геапалітычная падвешанасць і, як следства, вечны шантаж з боку Масквы. «Лепш трагічны фінал, чым бясконцы жах», — выказаў калектыўную думку ўкраінцаў адзін з палітолагаў Фонду імя Карнэгі.

Па-другое, ад дамовы ў Вільнюсе залежыць палітычная будучыня самога Януковіча, які дастаткова надакучыў нават сваім традыцыйным выбаршчыкам. «Калі Януковіч здолее прайсці паміж Сцылай і Харыбдай ціску з Брусэля і Масквы і ўсё ж падпісаць пагадненне аб асацыяцыі, то гэты факт зробіць яго пераабранне на наступны тэрмін безальтэрнатыўным, пазбавіўшы права нацыяналістычную апазіцыю яе асноўных козыраў. І ўжо калі Януковіч стане прэзідэнтам на праеўрапейскіх лозунгах, гэта істотна развяжа яму рукі ў знешнепалітычнай гульні. Бо тады можна будзе не азірацца на настроі прарасійскай часткі насельніцтва, не закладваць у кожны магчымы варыянт рашэнняў рызыкі электаральных або іміджавых страт», — піша ўкраінскае выданне «Хвиля».

Іншае выданне «Ukrnews» адзначае, наколькі важна падпісанне дамовы для еўрачыноўнікаў. Выданне піша: «ЕС схіляецца да таго, каб падпісаць пагадненне нават у тым выпадку, калі да саміту ў Вільнюсе не будзе вырашана пытанне Цімашэнка. Таму што непадпісанне — гэта правал усяго Вільнюскага саміту і ўсёй палітыкі Усходняга партнёрства. А гэта — удар па рэпутацыі вельмі многіх еўрапейскіх палітыкаў. У іх тут свой прагматычны інтарэс».

Аднак лепшым доказам таго, што дамова ўсё ж пабачыць свет, ёсць мінорны тон расійскага кіраўніцтва, якое, быццам, ужо пагадзілася, што вайна за Украіну прайграная. Каментуючы магчымае падпісанне Украінай пагаднення аб асацыяцыі з ЕС, Пуцін адзначыў, што «гэта будзе мець некаторыя негатыўныя наступствы эканамічнага характару для расійска-ўкраінскіх адносін. Аднак у палітычным сэнсе брацкія адносіны дзвюх краін ніяк не зменяцца».

Але ж мала хто не верыць, што траўма ад такога маштабнага фіяска зарубцуецца ў гаспадара Крамля вельмі хутка. Нават для піяру спробы рэінтэграцыі Украіны будуць працягвацца. Найбольш верагодна, што яны будуць мець фармат сталага эканамічнага ціску на Кіеў. Праўда, памер ціску вызначаны. Некаторыя крамлёўскія эканамісты прапануюць увогуле ўвесці поўнае эмбарга. Да іх, напрыклад, належыць палітолаг Сяргей Карaганаў, які лічыць, што такое эмбарга цалкам абрыне ўкраінскую эканоміку.

Аднак ёсць і больш асцярожныя ацэнкі такога сцэнару. Вядомы расійскі эканаміст Уладзімір Іназемцаў лічыць, што дэнансацыя Расіяй дамовы аб свабодным гандлі ёсць мінус 5–6% цяперашняга экспарту Украіны. «Гэта сапраўды адчувальна, але не крытычна. Мы не зможам абрынуць украінскую эканоміку. Яно (увядзенне эмбарга) не будзе мець такіх маштабаў і катастрафічных наступстваў», — мяркуе Іназемцаў.

> **Ад дамовы ў Вільнюсе залежыць палітычная будучыня самога Януковіча, які дастаткова надакучыў нават сваім традыцыйным выбаршчыкам**

Акрамя таго, панесеныя ў выніку падобнага супрацьстаяння страты расійскіх прадпрыемстваў і дзяржбюджэту рана ці позна прывялі б да сацыяльных ваганняў у самой Расіі, якія, у сваю чаргу, азначалі б унутрыпалітычныя рызыкі для Крамля.

Не трэба забываць, што Украіна ўжо амаль напалову скарацілa спажыванне прыроднага газу і, мяркуючы па ўсім, сур'ёзна занялася энергазберажэннем ды альтэрнатыўнымі крыніцамі энерганосьбітаў і энергарэсурсаў. Варта акрамя таго нагадаць, што на днях Уладзімір Януковіч заявіў пра тое, што да 2020 года Украіна павінна перайсці на самазабеспячэнне энерганосьбітамі. У дадатак практыка сведчыць, што любая спроба ціску на Украіну стане каталізатарам антырасійскіх настрояў.

Таму большасць палітолагаў чакаюць, што Крэмль зробіць стаўку на тое, каб прывесці да ўлады ва Украіне свайго чалавека. Рабіць гэта трэба дастаткова аператыўна. Праз дзясятак гадоў ва Украіне застануцца толькі віды вытворчасці, якія будуць патрэбныя на еўрарынку ў рамках той ролі ў падзеле працы, якую атрымае ў Еўрасаюзе Украіна. Гэтыя новыя вытворчасці і частка старых будуць убудаваныя ў зусім новыя тэхналагічныя ланцужкі. Адпаведна, узнікне новая культура рабочага класу, пазбаўленая настальгіі па савецкіх часах. Таму ўсе схіляюцца да думкі, што прамаскоўскі кандыдат з'явіцца на бліжэйшых прэзідэнцкіх выбарах 2015 года.

У прэсе нават называецца канкрэтнае імя палітыка, які павядзе прарускі электарат. Гэта Віктар Медведчук, лідар руху «Украінскі выбар», кум Пуціна. Родасныя сувязі, на думку прэсы, — вельмі важная рэч. У свой час для раскруткі Януковіча як лідара Крамлём было зроблена вельмі шмат, а ў выніку Віктар Фёдаравіч банальна пракінуў.

З іншага боку, палітолагі перакананыя, што насельніцтва Украіны ніколі не абярэ Медведчука сваім прэзідэнтам. Цэнтр, Захад і Поўнач Украіны прагаласуе хутчэй за Януковіча, чым за адкрытага стаўленіка «Газпрама». На ўсходзе і поўдні Медведчук можа атрымаць шмат, але пераадолець адміністратыўны рэсурс і адолець дзеючага гаранта шанцаў у яго ўсё роўна вельмі мала.

Калі не атрымаецца прасунуць Мядведчука, Крэмль, на думку палітолагаў, здольны будзе гуляць ва-банк. Палітолаг Віктар Яроменка сцвярджае: «Вымалёўваецца іншы сцэнар. Падобна на тое, Украіну будуць калоць. Паспрабуюць адарваць, што змогуць. Заглынуць цэлую дзяржаву ў Расіі ўжо не атрымаецца, і там гэта добра разумеюць. А вось адарваць пры дапамозе мутных рэферэндумаў некалькі абласцей, дзе асабліва высокі працэнт фанатаў СССР, за кошт раздачы бясплатных прадуктовых пайкоў — цалкам могуць».

Нельга сказаць, што ўкраінская эліта ігнаруе такога кшталту сцэнары. Вядучая ўкраінская аналітычная газета «Дзеркало Тижня» заклікае не забываць падзеі 2008-га ў Грузіі, аднак усё ж верыць, што ў выніку спробы гвалтоўнай сепарацыі Украіны абавязкова спрацуе формула «Захад нам дапаможа».

«Першая рэакцыя з Брусэля датычна расійскага ціску на Кіеў і Ерэван паказвае, што, па меншай меры, у органах ЕС распазналі выбуханебяспечнасць гэтай сітуацыі. Еўрапейскі саюз і яго дзяржавы ў будучыні не змогуць пазбегнуць больш інтэнсіўнага ўзаемадзеяння з Украінай і будуць вымушаныя больш уважліва цікавіцца спецыфікай яе ўнутраных і знешнепалітычных праблем. Занадта ўжо вялікія рызыкі і шанцы, звязаныя з далейшым развіццём тэрытарыяльна самай буйной еўрапейскай краіны. І не ў апошнюю чаргу Германіі (хоць бы ў сілу гістарычных прычын ) не павінна не хапаць рашучасці, прынцыповасці і праніклівасці ў яе ўсходняй палітыцы», — піша «Дзеркало Тижня».

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Навіна пра тое, што ўладальнік «Уралхіма» Дзмітрый Мазепін можа купіць «Уралкалій», прывяла да буйнога міжнароднага скандалу, паколькі Мазепіна лічаць блізкім да прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі. Так што цяпер у дзелавых колах з'явілася версія, што Лукашэнка атакаваў «Уралкалій» у інтарэсах Мазепіна. Зрэшты, пагаворваюць, што цяпер Дзмітрый Мазепін хоча рэабілітавацца перад Аляксандрам Лукашэнкам. Уся справа ў тым, што толькі ў Беларусі Мазепін можа атрымаць гарантаваны палітычны прытулак, калі на яго ў Расіі завядуць крымінальную справу. Магчыма, гаспадар «Уралхіма» адмыслова дамовіўся з Лукашэнкам, што той дапамагае яму захапіць «Уралкалій», а Мазепін наўзамен праводзіць эканамічную палітыку «Уралкалія» ў інтарэсах Беларусі.

**«The Moscow Post» (Расія)**

І што цяпер, Аляксандр Лукашэнка будзе ствараць новую Беларускую калійную кампанію з туркменамі? Але ці захочуць яны, калі ў іх пад бокам ёсць выхад да Персідскага заліва і наладжаныя адносіны з Кітаем? Узнікае і іншае пытанне — гендырэктар Уладзіслаў Баўмгертнер дзейнічаў у інтарэсах «Уралкалія», а ў чыіх інтарэсах дзейнічае Аляксандр Лукашэнка, які сваімі рукамі стварае канкурэнта «Беларуськалію»? І за што тады сядзіць Баўмгертнер? Узнікае ўражанне, што стварэнне Гарлыкскага горна-абагачальнага камбіната — гэта не столькі эканамічны, колькі палітычны праект, які павінен паказаць нядобразычліўцам, што Мінск і Ашхабад гатовыя пераадолець любыя перашкоды, даказаўшы ўсяму свету, што «ніхто ніколі не асмеліцца парушыць нашу дружбу».

**«Республика» (Казахстан)**

Няма сумненняў у тым, што суд над ксяндзом Лазарам будзе несправядлівым. Нават калі яго не будуць караць на максімальны тэрмін — 15 гадоў, — дык святар і без таго можа трапіць за краты на некалькі гадоў. Не варта спадзявацца, што Лукашэнка зразумее мову перамоваў, якія вядуцца з гэтай нагоды ў кулуарах. Толькі мову шантажу і ціску разумее Лукашэнка. Але ці ёсць сёння ў Польшчы інструмент, з дапамогай якога яна магла б паспяхова націснуць?

**«Tygodnik Powszechny» (Польшча)**

На розных пляцоўках працягваюць абмяркоўваць мэтазгоднасць санкцый у дачыненні да Беларусі, і ў прыватнасці эфектыўнасць «чорных спісаў». Змены ў гэтых спісах дэманструюць афіцыйнаму Мінску гатоўнасць Еўрасаюза рэагаваць на найменшыя перамены ў палітыцы беларускіх уладаў, лічаць эксперты. Аднак у чым складаюцца сёння гэтыя перамены? Фактаў рэпрэсій — затрыманняў, арыштаў, вынясення прысудаў за палітычную дзейнасць — у апошні час у Беларусі сапраўды стала менш. Але не таму, што ўлады аслабілі ціск на апанентаў рэжыму Лукашэнкі, а з-за адсутнасці значных палітычных кампаній, як падстаў для пратэстных акцый або іншай прыкметнай у грамадстве актыўнасці. У турмах застаюцца дзевяць палітвязняў. Не зразумела толькі, на якой падставе са спісу выключаныя 13 чалавек. Больш за тое, некаторым атрымалася яшчэ і выкарыстоўваць грошы еўрапейскіх падаткаплацельшчыкаў для судовых працэсаў у Еўропе.

**«RFI» (Францыя)**

Фінансавая нестабільнасць Беларусі — следства сістэмнага крызісу. Сістэма кіравання рэспублікай ужо шмат гадоў метадычна даказвае сваю нежыццяздольнасць. Улада адмаўляецца лічыцца з рэаліямі сучаснасці, працягвае весці палітыку самаізаляцыі, тым самым ствараючы глебу, на якой, як на пустазелле, прарастаюць кланавасць і карупцыя. Беларусь у гэтых адносінах падобная да многіх постсавецкіх рэспублік, калі б не адно «але»: у Беларусі проста немагчыма «з нізоў» істотна паўплываць на сітуацыю ў краіне. Кланы, якія больш за дзясятак гадоў таму захапілі ўладу ў краіне, на корані знішчаюць любую ініцыятыву, якая ідзе ад грамадзян і пагражае стаць незалежнай ад гэтых груповак. Ствараецца ўражанне, што для ўлады абсалютная большасць беларусаў — невукі, нявартыя ўдзелу ў пабудове лёсу краіны.

**«Надо» (Украіна)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### КАЗАХСТАН. НАЗАРБАЕВУ ЗАСТАЛОСЯ ЖЫЦЬ ПАЎГАДЫ?

Такую сенсацыю выдала казахская газета «Рэспубліка» са спасылкай на аднаго ізраільскага грамадзяніна. Ён, маўляў, асабіста ведае хірургаў, якія не так даўно зрабілі аперацыю казахскаму лідару. Згодна з атрыманай ад іх інфармацыяй, у Назарбаева рак прастаты. Таму ізраільскія медыкі аперавалі Нурсултана Назарбаева ў прыватным анкалагічным шпіталі «Асота», выдалілі яму частку мачавога пухіру і ўжывалі кропкавае апрамяненне. Акрамя таго, выдаленню падлягалі адно або абодва ячкі. Звычайна такі стан рака прастаты дае хвораму шанс пражыць не больш за шэсць месяцаў. Нягледзячы на ўсю сенсацыйнасць заявы, прэса дастаткова спакойна ўспрыняла артыкул у газеце. На думку журналістаў, пакуль не варта спяшацца верыць у гэту інфармацыю. Калі б Елбасы сапраўды збіраўся ў іншы свет, ён абавязкова пачаў цягаць з сабою ў розныя дыпламатычныя туры і рабочыя паездкі пераемніка для знаёмства і благаславення ў сталіцах краін, якія змогуць гарантаваць яму дапамогу і пераемнасць курсу. А паколькі Назарбаеў пасля лячэння ў Ізраілі некалькі разоў быў на публіцы і нікога пры гэтым не піярыў, відавочна, што дыягназ у яго не такі ўжо і жудасны.

**Паводле казахскай прэсы**

### ГРУЗІЯ. ГРУЗІНАМ МОЖА СТАЦЬ КОЖНЫ




На 17 лістапада прызначана працэдура інагурацыі новага прэзідэнта Грузіі, якім па выніках выбараў стаў прадстаўнік каманды Бідзіны Іванішвілі, алігарха, лідара ўрадавай партыі Грузінская мара. Аднак да 17 лістапада краінай па закону кіруе Міхаіл Саакашвілі, апанент Бідзіны. Адным з самых гучных апошніх законаў Саакашвілі, відавочна, стане новая працэдура атрымання іншаземцамі грузінскага пашпарту. 8 лістапада канцылярыя кіраўніка дзяржавы апублікавала спіс патрабаванняў для жадаючых набыць грамадзянства Грузіі. Згодна з новым законам, для падачы заявы паўналетняму іншаземцу неабходна мець пры сабе толькі пашпарт сваёй краіны і яго натарыяльна завераны пераклад. Пасля гэтага кіраўнік дзяржавы разгледзіць і падпіша заяву ў максімальна сціслыя тэрміны. Дзеючы грузінскі прэзідэнт патлумачыў сваё жаданне раздаваць грузінскія пашпарты клопатам пра эканоміку краіны. Паводле яго слоў, сярод тых, хто хоча атрымаць грамадзянства Грузіі, ёсць бізнэсоўцы, якія ўжо даўно працуюць у Грузіі. Грузінскія СМІ перадаюць, што ў прэзідэнцкай рэзідэнцыі, дзе і адбываецца прыём дакументаў па грамадзянству, ужо стаяць чэргі. Між тым, новыя грузінскія ўлады, наадварот, занепакоеныя патокам замежных грамадзян. У хуткім часе парламент краіны мае намер разгледзець законапраект пра больш жорсткі характар візавага заканадаўства краіны.

**Паводле брытанскай прэсы**

### ЗША. БЕЛЫ РАСІСТ АКАЗАЎСЯ ЧАРНАСКУРЫМ

Крэйг Гобс, лідар самай вялікай у ЗША неанацысцкай партыі Нацыянал-сацыялістычны рух, сеў у лужыну. Усё таму, што вырашыў даць прыклад сваім суседзям — жыхарам маленькага гарадку Лэйз у штаце Паўночная Дакота. Гобс заклікаў прыняць закон, паводле якога горад Лэйз ператвараецца ў анклаў для прадстаўнікоў белай расы. На лагічнае пытанне, як тэхнічна вызначаць расава чыстых людзей, Крэйг прапанаваў усім жыхарам прайсці аналіз ДНК. Больш таго, першым пагадзіўся прайсці працэдуру. Вынікі аказаліся трагічнымі для праекту. Аказваецца, 14 працэнтаў структуры крыві нацыянал-сацыяліста падобныя на структуру крыві жыхароў цэнтральнай Афрыкі. Цікава, што Гобс, які цяпер на адну шостую негр, не адмовіўся ад сваёй ідэі. Паводле яго слоў, проста падчас аналізу адбылася нейкая памылка.

**Паводле брытанскай прэсы**

### ГЕРМАНІЯ. РЭФЕРЭНДУМ ВЯРТАЕЦЦА

«Suddeutsche Zeitung», адна з самых уплывовых нямецкіх газет, сцвярджае, што падчас цяперашніх кааліцыйных перамоваў паміж эсдэкамі і хрысціянскімі дэмакратамі ўзнята пытанне вяртання ў нямецкі палітычны працэс практыкі рэферэндумаў. Плебісцыты зніклі з нямецкіх законаў пасля 1945 года, паколькі ў часы Гітлера ўсенародныя апытанні праводзіліся вельмі часта для легалізацыі дыктатуры. Аднак цяпер для развіцця грамадзянскай ініцыятывы вырашана рэферэндумы рэабілітаваць. Праўда, рэферэндумы ў ФРГ, на думку ўдзельнікаў перамоваў, можна будзе праводзіць не па ўсіх пытаннях, а выключна па праблемах еўрапейскай інтэграцыі. Чутка пра вяртанне рэферэндумаў у нямецкае заканадаўства ўжо занепакоіла некаторыя ўсходнееўрапейскія эліты. Відавочна, што да еўрапейскай інтэграцыі таксама можна аднесці і пытанне прыёму ў склад ЕС новых сябраў. Такім чынам, бюргеры, якім цяпер характэрныя ксенафобскія настроі, могуць заблакаваць працэс пашырэння ЕС, і перш за ўсё паставіць крыж на еўраамбіцыях Турцыі. Праўда, для правядзення ўсенароднага галасавання яго ініцыятарам трэба сабраць мільён подпісаў.

**Паводле нямецкай прэсы**

---

ПРАТЭСТЫ

# ЧЫРВОНЫЯ КАЎПАКІ СУПРАЦЬ ПАРЫЖУ

*Алег НОВІКАЎ*

**Пратэсты ў французскім рэгіёне Брэтань могуць стаць пачаткам распаду французскай дзяржавы. Пра такі сцэнар кажуць мясцовыя нацыяналісты.**



Пачынаючы з 26 кастрычніка Брэтань была ахопленая акцыямі пратэсту. 10 лістапада паліцыя Францыі ўступіла ў сутыкненне з сотнямі дэманстрантаў, якія выступілі супраць падатковай праграмы пра навакольнае асяроддзе і патрабавалі працоўнай бяспекі, і задушыла чарговую дэманстрацыю.

Пралогам акцый пратэсту стаў інцыдэнт каля падатковага бюро ў адным правінцыйным горадзе. Незадаволеныя новым экападаткам на грузавыя аўтамабілі, сяляне паспрабавалі заваліць уваход у будынак смеццем і гноем, якія яны прывезлі на 250 грузавіках і трактарах. Паліцыя, маючы намер не дапусціць разгортвання акцыі, цяжка параніла аднаго з маніфестантаў — яму на вачах ва ўсіх адарвала руку. Паліцэйскі гвалт выклікаў хвалю пратэстаў, якія набіралі ўсё больш масавы і сістэмны характар. Так, у пратэстуючых з'явіўся нават свой сімвал — чырвоны каўпак.

Успышка ў Брэтані мела месца на фоне росту недаверу да адміністрацыі прэзідэнта Франсуа Аланда, які вымушаны ўздымаць падаткі. Нядзіўна, што практычна ўсе партыі (нават некаторыя фракцыі ўнутры ўрадавай Сацпартыі) выказалі сваю салідарнасць з пратэстуючымі Брэтані. Спрабуюць выкарыстаць кан'юнктуру і брэтонскія нацыяналісты. На іх думку, з'явіўся ўнікальны шанс дабіцца ад Парыжу пашырэння брэтонскай аўтаноміі, якая можа запусціць працэс эрозіі французскай дзяржаўнай мадэлі.

Увогуле, брэтонскі нацыяналізм нарадзіўся яшчэ ў XIX стагоддзі падчас агульнаеўрапейскай моды на этнарамантызм. У XX стагоддзі этнаграфічна-культуралагічны дыскурс набыў палітычныя рысы. У праграме створнай у 1911 годзе Партыі брэтонскіх нацыяналістаў адзначалася, што выключна незалежнасць можа як захаваць культурную спадчыну, так і забяспечыць эканамічны дабрабыт.

Дарэчы, паводле разлікаў цяперашніх эканамістаў-нацыяналістаў, незалежная Брэтань магла б мець ВУП аб'ёмам 115 мільярдаў еўра штогод. Адпаведна, з пералікам на колькасць насельніцтва ў рэгіёне (4,5 мільёна чалавек) па ўзроўні заможнасці край можна было параўнаць з цяперашняй Італіяй.

Кароткі курс гісторыі брэтонскага нацыяналізму немагчымы без згадкі пра адну забаўную метамарфозу. Падчас гітлераўскай акупацыі Францыі брэтонцы былі заўзятымі калабарантамі і нават дабіліся, каб немцы надалі брэтонскай мове афіцыйны статус і выдавалі субсідыі на СМІ.

Затое ў 1960-я гады адбыўся круты паварот. Ініцыятыву ў нацыяналістычным руху захапілі левыя. Магчыма, гэта звязаная з вялікай роляй, якую гуляе ў брэтонскім культурным руху этнічная музыка. У 1970-я гады ў Еўропе пачаўся бум этнароку, і фанаты рок-н-ролу (як правіла, левых поглядаў) праз музыку пачыналі цікавіцца палітыкай. Так ці інакш, левыя навязалі брэтонскаму нацыяналізму свае лозунгі, і ў тым ліку канцэпцыю ідэнтычнасці.

Паводле яе, брэтонцам можа лічыцца асоба любой расы і нацыі, калі яна размаўляе на брэтонскай мове. Вядучую палітычную структуру нацыяналістаў — Брэтонскую партыю (РВ) — па праграме можна аднесці да партый левага цэнтру. РВ таксама ўдзельнічае ў своеасаблівым кельцкім інтэрнацыянале (рух за адзінства кельцкіх народаў, куды ўваходзіць Ірландыя, Уэльс, Шатландыя і востраў Мэн).

Ёсць сэнс зазначыць, што брэтонскі нацыяналізм найбольш моцны сярод французскіх мясцовых нацыяналістычных рухаў. РВ мае дэпутацкую групу ў пяці рэгіянальных саветах, набіраючы ў дзесяці брэтонскіх кантонах на выбарах у сярэднім па 3–4 працэнты.

Увогуле, брэтонскі нацыянальны рух робіць стаўку на паступовыя рэформы (хаця ў 1970-я існавалі партызанскія групоўкі, якія лічылі магчымым абвяшчэнне незалежнасці тут і зараз). Але, на думку кіраўніцтва РВ, цяперашняя фронда чырвоных каўпакоў дае магчымасць дынамізаваць працэс пашырэння аўтаноміі краю. На іх думку, сапраўднай лагічнай альтэрнатывай падатковай несправядлівасці можа быць не адмена згаданага вышэй падатку, а перадача Брэтані пакету эканамічных свабодаў.

Праўда, у РВ прызнаюць, што Парыж пойдзе на саступкі, толькі калі пратэсты чырвоных каўпакоў будуць мець выразны лакальны характар. Для гэтага актывісты пачалі прапагандысцкую кампанію навязвання пратэстуючым брэтонскай свядомасці. Перш за ўсё, яны тлумачаць, што чырвоныя каўпакі — гэта старажытны сімвал пратэсту ў Брэтані. Гісторыкі выкапалі, што першыя бунты «чырвоных каўпакоў» датаваныя 1675 годам, калі брэтонцы паўсталі супраць кардынала Мазарыні, які будаваў рэжым абсалютнай манархіі. Сімвалічна, што тыя выступы былі таксама звязаныя з тэмай падаткаў. Жан-Батыст Кальбер (міністр фінансаў) увёў спецыяльны падатак з падпісання кожнай юрыдычнай дамовы.

Такія экскурсы ў гісторыю павінны замацаваць сярод пратэстоўцаў тутэйшую ідэнтычнасць і паўплываць на іх палітычныя лозунгі. Калі справа пойдзе, нацыяналісты лічаць магчымым заключыць з усімі лакальнымі палітычнымі сіламі своеасаблівы пакт, у рамках якога можна выставіць патрабаванні Парыжу ад імя рэгіёну.

«Калі мы хочам аднавіць у Брэтані справядлівае грамадства на службе дынамічнай і ўстойлівай эканомікі, мы павінны вырашыць, што будзе з нашым краем. Гэта адзіны спосаб даць надзею людзям, якія церпяць бедства. Інакш яны могуць спакусіцца ідэямі гвалтоўнага экстрэмізму, які вядзе ў нікуды і якога Брэтань была пазбаўленая да гэтага часу. Наша партыя гатовая ўдзельнічаць у кансалідацыі грамадства з усімі дэмакратамі, якія жадаюць, каб будучая Брэтань была прыгожай, квітнеючай і адзінай», — гаворыцца ў звароце брэтонскіх нацыяналістаў.

Пакуль цяжка прагназаваць, наколькі ў РВ атрымаецца кансалідаваць пратэстныя настроі вакол рэгіянальных патрабаванняў. Незадаволенасць урадам расце практычна па ўсёй краіне, і брэтонская тэма пакуль гучыць на другім плане. Аднак шансы на перафарматаванне палітычнай мадэлі ў Францыі (у тым ліку адміністратыўнай сістэмы) усё роўна вельмі высокія.

Напачатку лістапада Франсуа Аланд пабіў рэкорд па самай нізкай папулярнасці сярод усіх прэзідэнтаў V рэспублікі. Зараз яго падтрымліваюць толькі 26 працэнтаў французаў. Выданне «Nouvel Observateur» раіць прэзідэнту пайсці на незвычайны крок — абвесціць агульныя зборы, своеасаблівы аналаг Генеральных штатаў — так да Вялікай Французскай Рэвалюцыі называўся шырокі дарадчы орган, які склікаўся па ініцыятыве каралеўскай улады ў крытычныя моманты для аказання дапамогі ўраду. Асноўнай функцыяй Генеральных штатаў было менавіта ўстанаўленне з санкцыі ўсяго грамадства новых падаткаў. Інакш, як піша часопіс, адміністрацыю Аланда чакае «Беразіна» (так з часоў Напалеона ў Францыі называюць глабальныя фіяска).

ПАСЛЯ ПАДЗЕІ

# МАРШ НЕЗАЛЕЖНАЙ СВЯДОМАСЦІ

Алег НОВІКАЎ

**11 лістапада журналіст НЧ Алег Новікаў аказаўся ў эпіцэнтры «Маршу незалежнасці» ў Варшаве. Прапануем яго ўражанні ад пабачанага.**



Хіпстэры і скінхэды — антаганістычныя субкультуры. Аднак ніякай канфрантацыі паміж імі 11 лістапада не было. Разгадка дзіўнага кансэнсусу простая

Па-першае, вельмі смешна чытаць заявы рускіх палітыкаў, абураных спробай падпалу расійскага пасольства падчас маршу ў Варшаве 11 лістапада. Па сутнасці саму ідэю мабілізацыі і штогадовага правядзення агульнанацыянальнай маніфестацыі польскія радыкальныя правыя імпартавалі з Расіі.

У 2005 годзе пракрамлёўская партыя «Родина» выступіла аўтарам ідэі правядзення масавай вулічнай акцыі 4 лістапада — у прыдуманы Пуціным (у той жа год) Дзень народнага адзінства. Акцыю вырашылі назваць «Рускі марш». Аднак утрымаць ініцыятыву Дзмітрый Рагозін і іншыя лідары «Родины» не здолелі. Хэдлайнерамі маніфестацый на Дзень адзінства на працягу двух гадоў сталі правыя радыкалы.

Падзеі ў Маскве выклікалі інтарэс у польскай прэсе, што нядзіўна. Як вядома, афіцыйна Дзень народнага адзінства ў Расіі прывязаны да дня вызвалення Масквы ў 1612 годзе ад войскаў Рэчы Паспалітай. Хутка ў асяроддзі польскіх правых узнікла ідэя правядзення свайго маршу.

Як і ў Расіі, у Польшчы зрабіць рэкламу маршу дапамог правы палітычны істэблішмент. У мінулым годзе фармальным арганізатарам масавай акцыі на 11 лістапада была вядучая апазіцыйная партыя «Права і справядлівасць» (PiS). Але карцінку на тэлебачанні ў выніку рабіў не лідар PiS Яраслаў Качыньскі, а група праварадыкальных фанатаў сталічнага клубу «Легія», якія паспрабавалі будаваць на вуліцы Маршалкоўскай нешта накшталт барыкады.

Пасля гэтага кансерватары, электарат якіх — яўна не футбольныя фанаты, вырашылі ўзяць дыстанцыю ад ультраправых і правесці ў гэтым годзе сваю галоўную акцыю ў Кракаве. Што тычыцца раскручанага ў грамадстве брэнда «Марша незалежнасці», то ён дастаўся правым сілам.

З іншага боку, назваць акцыю ў Варшаве копіяй «Рускага маршу» нельга. Узровень расізму і ксенафобіі сярод польскіх правых, прынамсі на першы погляд, на ступень ніжэй, чым у іх расійскіх калег. Напрыклад, ніхто нават не звярнуў увагу на нейкага арабскага прадпрымальніка, які на варшаўскай станцыі метро «Цэнтрум» прабег праз калону маніфестантаў з тэлефонам каля вуха, заклапочаны сваімі праблемамі. Спакойна працавалі ў арэале правядзення акцыі кропкі па продажу кебабаў і в'етнамскія кафэ.

Такая ідэалагічная непаслядоўнасць праяўлялася і ў месцы пачатку правядзення акцыі. Марш стартаваў каля Палацу культуры і навукі, што на першы погляд проста нонсэнс (будынак гэтага палацу — падарунак Саветаў, копія вядомых сталінскіх маскоўскіх высотак, з нагоды чаго правыя партыі даўно патрабуюць дэканструкцыі комплексу, які, на іх думку, нагадвае пра змрочныя часы сацыялізму).

Ідэалагічныя супярэчнасці маршу лезуць на кожным кроку. Калі верыць газеце «Polska Nepodlegla», якую раздавалі ў вялікай колькасці мінакам, марш павінен быў данесці да ўлады шэраг патрабаванняў. Большасць з іх маюць антыеўрапейскі характар. Арганізатары маршу патрабавалі, сярод іншага, перагляду Лісабонскай канстытуцыйнай дамовы ЕС на карысць пашырэння суверэнітэту краін — сяброў ЕС, захавання злотага як польскай валюты, забароны вывешвання сцягоў ЕС на афіцыйных установах Польшчы, абмежавання дыктату заходніх, перш за ўсё нямецкіх, канцэрнаў, якія манапалізуюць польскі рынак.

Аднак ніякіх праяў агрэсіі на адрас еўрапейскіх установ (камерцыйных або палітычных) падчас акцыі не было. І ўвогуле, цяжка сказаць, у якой форме іх можна пікетаваць у сучаснай Польшчы. Для гэтага ў маршы мусілі б удзельнічаць выключна «трезвенники и язвенники», паколькі польскі піўны рынак даўно кантралююць еўрапейскія піўныя кампаніі. Між тым, уявіць акцыю 11 лістапада без алкаголю немагчыма. Задоўга да скандавання лозунгаў маніфестанты пачалі падагравацца алкаголем. Дзе-нідзе ў натоўпе нацыяналістаў можна было пачуць пах марыхуаны.

Калі казаць пра сацыяльны профіль удзельнікаў акцыі, то можна выдзеліць дзве найбольш заўважныя групы. Па-першае, гэта сталічныя школьнікі і студэнты, якія выдзяляліся даволі дарагім адзеннем у стылі хіпстэраў.

Другая група — беспрацоўная моладзь з прыгарадаў і з правінцыі. Іх дэсанты высаджваліся на вакзале Варшава Цэнтральная. Правінцыялы яўна адсталі ад трэндаў сталічнай моладзевай моды. Яны дасюль апранаюць вопратку аля скінхэд, мода на якую прайшла. Адсотак іншых сацыяльных груп у складзе маніфестантаў, у тым ліку актывістаў афармленых праварадыкальных партый, быў невялікі.

Увогуле, хіпстэры і скінхэды — антаганістычныя субкультуры. Аднак ніякай канфрантацыі паміж імі 11 лістапада не было. Разгадка дзіўнага кансэнсусу вельмі простая. У першых і другіх была іншая агульная ўстаноўка — пабегаць ад паліцыі. З самага пачатку было зразумела, што іншага фіналу, акрамя бойкі, быць не можа. Увогуле, атака на будку ахоўніка расійскай амбасады была нейкім жэстам адчаю. Акцыя падыходзіла да фіналу, а ніякай ін'екцыі адрэналіну ў кроў не было. У выніку пад руку моладзі падвярнулася пасольства і забаўная канструкцыя вясёлкі, у якой пабачылі сімвал руху за правы сэксуальных меншасцяў.

У гэтым плане хацелася б адзначыць дзеянні паліцыі, якая намагалася не заўважаць дробныя правапарушэнні ўдзельнікаў акцыі — публічнае піццё піва, дэманстратыўныя выбухі петардаў, разбурэнне лавак, антыпаліцэйскія лозунгі. Замест арышту радыкалам нават забяспечылі ганаровы эскорт у вагоны цягнікоў на станцыі Варшава Цэнтральная. Па тварах пасажыраў было бачна, што яны яўна расчараваныя, і ў наступным годам яшчэ падумаюць, ці трэба ехаць праз паўкраіны, каб выбухнуць пару петардаў.

Праўда, праблему маргіналізацыі моладзі ў польскай правінцыі гэта не здымае. 11 лістапада прадэманстравала, што акрамя шыкоўнай Варшавы існуе другая Польшча, і думаюць гэтыя часткі краіны па-рознаму.

Што тычыцца будучыні маршу, то яно пад пытаннем. Муніцыпалітэт Варшавы ўжо выставіў арганізатарам акцыі іск, патрабуючы кампенсацыі за вандалізм падчас маніфестацыі. Сума іску складае каля 40 тысяч долараў, і не факт, што ў наступным годзе нехта з палітыкаў адважыцца выступіць арганізатарам такога паходу.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### ПАРФІРЫА ЛОБА СОСА



Прэзідэнт Гандураса абвясціў у краіне мабілізацыю з-за пагрозы вайны. Канфлікт, на яго думку, непазбежны з-за рашэння суседняга Сальвадора набыць у Чылі 10 вайсковых самалётаў. Мэта такой закупкі, на думку гандурасіх палітыкаў, відавочная — забраць назад востраў Conejo і частку ўзбярэжжа Ціхага Акіяну, якія сальвадорцы лічаць сваімі. Гісторыя гэтага канфлікту сыходзіць далёка ў мінулае і неаднаразова прыводзіла да войнаў. Самая славутая мела месца ў 1969 годзе, паколькі была выкліканая тым, што футбольная каманда адной краіны прайграла другой. Апошні раз баталіі на востраве мелі месца на пачатку 1990-х гадоў. У 1992-м паміж бакамі быў заключаны мір, аднак не канчатковы. Сальвадорцы дасюль лічаць гандурасцаў акупантамі, пра што іх урад афіцыйна заявіў адразу пасля набыцця тых самых чылійскіх самалётаў. Вайсковы бюджэт Гандураса не такі вялікі, каб аператыўна аднавіць вайсковы баланс з суседзямі (самалёты каштавалі 8 мільёнаў еўра). Таму на гэтым этапе актыўнасць Гандурасу сфакусаваная на працы з міжнародный супольнасцю. Гандураскі МЗС ужо паскардзіўся ў ААН і ў Арганізацыю Амерыканскіх Дзяржаў. Між тым, аглядальнікі кажуць, што Гандурас сам часткова нясе адказнасць за цяперашнюю эскалацыю. У мінулым годзе менавіта на востраве Conejo гандураская палітычная эліта гучна адсвяткавала 192-ю гадавіну вызвалення краіны ад Іспаніі.

### АЛЕГ МІХЕЕЎ



Міхееў — сябра фракцыі партыі «Справядлівая Расія» ў Дзяржаўнай Думе Расіі. Апошнім часам у Думе хапае кур'ёзных законапраектаў. Напрыклад, праект камуністаў караць за антыпатрыятычныя заклікі або ідэя прыцягаць да адказнасці за змешчаныя ў сацыяльных сетках анонсы несанкцыянаваных акцый. Аднак Міхееў пайшоў далей за ўсіх. Ён прапанаваў Дзярждуме разгледзіць законапраект пра ўнясенне паправак у закон аб СМІ, каб забараніць расійскім СМІ прапагандаваць «легкадумныя адносіны да сэксуальных функцый». Аглядальнікі звярнулі ўвагу на тое, што менавіта эсэры заклапочаныя праблемай сэксу. Як вядома, раней іншая эсэрка Елена Мішуліна патрабавала забараніць нетрадыцыйныя сэксуальныя адносіны. Такая заклапочанасць выклікала ў прэсе сур'ёзныя разважанні наконт таго, што ў Крамлі магла мець месца наступная сцэна. Пуцін прыкладна з год таму зрабіў разнос «Справядлівай Расіі» і асабіста яе лідару Сяргею Міронаву, забараніўшы яму "займацца ўсякай апазіцыйнасцю". Міронаў спытаў Пуціна: «А што можна?» На што той адказаў, маючы на ўвазе зусім іншае: «Займіся сэксам». І Сяргей Міронаў зразумеў гэта не тое каб зусім літаральна, але з пункту гледжання таго, чым павінна займацца яго партыя ў галіне заканатворчасці.

### АЛЬФОНСА АЛОНСА



Старшыня парламенцкай фракцыі іспанскай кансерватыўнай Народнай партыі (PP) патрабаваў, каб уся фракцыя PP прагаласавала за закон аб тым, што карыда з'яўляецца «часткай нацыянальнай культуры іспанцаў». Паколькі ўсе іншыя фракцыі галасавалі супраць, закон быў прыняты выключна дзякуючы галасам народнікаў, якія маюць у Картэсах большасць. Такім чынам, у будучыні эколагам будзе цяжэй дамагацца забароны карыды, што, на іх думку, з'яўляецца антыгуманным артэфактам. З іншага боку, галасаванне нельга назваць поўнай катастрофай для зялёных. Па-першае, кансерватары ў прынцыпе пагадзіліся на разгляд гэтага пытання. Па-другое, яны не паставілі пад сумнеў права мясцовых адміністрацый вызначаць: патрэбна ім карыда або не. Нагадаем, што пару гадоў таму карыду забаранілі ў Каталоніі. Цікава, што з-за крызісу ў гэтай сферы бізнэсу назіраецца стагнацыя. Колькасць баёў з быкамі за апошні год у Іспаніі ўпала ў два разы. Жыхары іспанскай правінцыі (галоўныя наведвальнікі баёў) не маюць сродкаў хадзіць на стадыёны. Эколагі маюць надзею, што дзякуючы крызісу былыя аматары карыды паступова забудуць пра сваё хобі, і гэтая забаўка ўжо ніколі не адродзіцца.

▶ З НАГОДЫ

# Рыгор Барадулін: «ВУШАЦКІ СЛОВАЗБОР» Я

Сяргей ШАПРАН

**У бібліятэчцы Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка» выйшаў «Вушацкі словазбор» Рыгора Барадуліна. Кніга, якую паэт пачаў збіраць больш шасцідзесяці гадоў таму.**



Фота аўтара

«Я проста купаўся ў чысцюткай, як вушацкае возера Вечалле, беларускай мове, чытаючы рукапіс гэтай кнігі. Колькі слоў, ані ў якіх слоўніках не зафіксаваных, — напісаў у прадмове да «Вушацкага словазбору» Уладзімір Някляеў. — У гэтым свеце Барадулін робіць тую працу, якую ў іншых светах робіць народ: моваствральную. І яшчэ аберагальную, бліскуча скарыстоўваючы і тым самым захоўваючы тое, што народ ужо стварыў і за што некалі скажа дзякуй свайму Паэту».

Пра «Вушацкі словазбор» наша гутарка з Рыгорам БАРАДУЛІНЫМ.

***— Вы, дзядзька Рыгор, неаднойчы на працягу апошніх гадоў гаварылі, што адна з Вашых галоўных турбот — паспець зрабіць «Вушацкі словазбор». Упершыню Вы часткова надрукавалі яго ў 1996 годзе ў кнізе «Здубавецця», затым, у 2002-м, у сваім Зборы твораў. І вось цяпер ён нарэшце цалкам сабраны і выдадзены. Шчыра кажучы, нават не ўяўляў, што гэты словазбор будзе такім вялікім — амаль чатырыста старонак. Але што Вы самі адчулі, калі ўбачылі выдадзеную працу ледзь не ўсяго свайго жыцця?***

— Для мяне гэта вялікае свята, гэта ўрачыстасць на душы. Нават не верыцца, што гэтая кніга ёсць. Я ж слоўнік вушацкай мовы пачаў складаць яшчэ ў школе: памятаю, недзе класе ў сёмым зрабіў з сшытка блакноцік са скрэпачкамі і напісаў: «Слоўнік».

***— Някляеў у выдатнай прадмове да «Вушацкага словазбору» пад шматзначнай назвай «Цуд!» піша, што ў Вашым хатнім архіве болей за дзве сотні нататнікаў з вершамі і самымі рознымі запісамі, хоць насамрэч, відаць, тых нататнікаў назбіраецца значна болей.***

— Някляеў напісаў геніяльную прадмову! Але Валодзя здольны літаральна на ўсё: і вершы пісаць, і паэмы, і эсэ, і прадмовы. Наогул, няма такой галіны чалавечай дзейнасці, дзе б Някляеў не быў першы. Відаць, ён — ужо апошні з усебакова адукаваных паэтаў беларускіх. У маладых няма такога размаху, такога адчування і радасці жыцця, як у Някляева. Але кажу гэта не ў тым сэнсе, што, маўляў, я — стары, а вы — маладыя... Проста зараз ідзе век прагматыкі, і чытач, як шчупак, загнаны ў вугал.

Што ж тычыцца «Вушацкага словазбору», дык тут найперш я павінен адзначыць велізарную заслугу Наталлі Давыдзенкі, укладальніцы гэтай кнігі. Я вельмі ўдзячны ёй, бо яна зdolела выканаць працу цэлага інстытута. Па стане здароўя сам я ўжо не мог засяроdзіцца на такой працы — гэта менавіта Наташа не толькі сабрала мае запісы, але



Фота Э. Дамарацкага

Рыгор Барадулін з мамай Акулінай Андрэеўнай

і ўпарадкавала іх, яна ж зрабіла структуру кнігі. Тут жа не проста слоўнік — у кнізе ёсць і асобныя раздзелы, скажам, прыказкі й прымаўкі, пад'ялдычкі й цвялілкі, добрыя пажаданні й хуткамоўкі, загадкі й дзіцячыя гульні. Ці, дапусцім, прыгаворкі — гэта ж не тое, што прыказкі ці прымаўкі, гэта зусім іншае: гэта калі чалавек нешта робіць і пры гэтым нешта прыгаворвае. Гэта ўсё роўна што ў страву дадаць перац ці кмен — так і прыгаворкі. Наогул кажучы, у кнізе ўсяго патроху: і скаромнага, і ўзнёслага.

***— Між тым адчуваецца, што тыя ж, да прыкладу, тлумачэнні слоў у «Вушацкім словазборы» калі не напісаныя, дык падкарэктаваныя паэтам. Ці правільна разумею: нельга назваць «Вушацкі словазбор» фальклорным зборнікам у чыстым выглядзе — лепш гаварыць пра Вашае суаўтарства з землякамі?***

— Безумоўна, калі нешта не так клалася, дык даводзілася падпраўляць, але, вядома, у межах...

***— Гэта значыць, стылізавалі?***

— Так, крыху стылізаваў, але так, каб не было заўважна, што гэта я рабіў. Гэта можа быць відаць толькі спецыялістам. Да таго ж, калі ў галаву прыходзілі нейкія прыказкі і прымаўкі, дык я часам не ведаў: ці гэта вушацкае, ці гэта я сам сачыніў.

***— І тады, відаць, думалі: хай будзе вушацкае!***

— Так, хай будзе вушацкае.

***— Такім чынам аўтарам «Вушацкага словазбору» можна ўсё ж пазначыць Барадуліна і землякоў?***

— Так, Барадулін і вушацкія людзі.

***— Асобны раздзел у кнізе — аповеды гэтых самых вушацкіх людзей: Вашых сваякоў Трафімавых — цёткі Марыі Рыгораўны і стрыечнага брата Пятра, маці і сястры Васіля Быкава Ганны Рыгораўны і Валянціны Уладзіміраўны, жыхароў вёсак Забораўна і Гразь... Прыгадваю, што калі мы дзесяць гадоў таму былі разам з Вамі ў гасцях у сястры Васіля Быкава ў вёсцы Ваўчо, дык мы з Валянцінай Уладзіміраўнай пра нешта гаворым, а Вы тут жа ў блакноцік пішаце. Я меркаваў, што да Вас вершы прыйшлі, а цяпер бачу па «Вушацкім словазборы», што Вы занатоўвалі аповеды Валянціны Уладзіміраўны.***

— Я проста прызвычаіўся запісваць за сваімі землякамі. І калі чуў нейкае новае слова, дык мне часам хацелася папрасіць: «Паўтарыце яшчэ раз, што Вы сказалі». Але баяўся, што мне адкажуць: «Мешугене копф», — «дурная галава» па-яўрэйску.

***— Вы заўсёды запісвалі адразу, як чулі якое новае слова ці аповед?***

— Калі была такая магчымасць, дык адразу, бо блакнот заўсёды быў у мяне з сабой. А калі не, дык стараўся не забыцца. І калі прыходзіў дадому і ўспаміваў якое слова, дык тут жа запісваў.

Наогул кажучы, гэтыя аповеды маіх землякоў — гэта як вершы ў прозе: гэты тэкст і звініць, і ляціць. Гэтыя фразы, сказы — як хочаце называйце — усе яны акрыленыя, і гэта вельмі важна.

***— Сапраўды, колькі паэзіі ў той жа вушацкай прыгаворцы: «Як жыта жнуць, тады баб людзьмі завуць».***

— Гэтыя прыказкі, прымаўкі — самыя сапраўдныя вершы, аднаскладныя вершы.

Але яшчэ раз хачу адзначыць вялікую працу, вялікае стараннe Наталлі Давыдзенкі. Калі б ставіць адзнакі, дык паставіў бы ёй «пяць», бо так падабраць, так апрацаваць мае запісы... Нават не ведаю, як ёй дзякаваць. І што вельмі важна: Наташа сама піша вершы, і, паходжаннем з Расіі, яна выдала ўжо адзін зборнік па-беларуску, зараз падрыхтавала другі. Яна адчувае слова менавіта як паэтка, а ў чалавека, які піша вершы, зусім іншае бачанне слова. Мову трэба адчуваць, а не проста ведаць. Канешне, самае лепшае — нарадзіцца з ёю, а пасля ўжо набываць столькі моў, колькі хочаш, бо колькі ведаеш моў — столькі разоў ты чалавек. Аднак роднай можа быць толькі адна мова.

***— Мы ж некалі рыхтавалі разам з Наталляй Давыдзенкай кнігу Вашага ліставання з мамай Кулінай Андрэеўнай «Паслаў бы табе душу...» — гэта была няпростая праца, але сабраць «Вушацкі словазбор» — рэч, канешне, найскладанейшая. Аднак хацеў бы вярнуцца да пачатку размовы: ці ўзгадаеце, дзядзька Рыгор, чаму ўсё-ткі ўзяліся ў сёмым класе рабіць слоўнік? І за кім першым пачалі занатоўваць?***

— За мамай. Альбо запісваў за тымі, хто прыходзіў у нашую хату. Мяне магло больш усхваляваць адно нейкае пачутае слова ад земляко ў, чымсьці даклад на ХХІ з'ездзе КПСС. Дапусцім, такое слова, як «самалюбімы» (гэта не тое, што «самалюбівы»), ці нескаромныя вершы пра п...леньку... Усе гэтыя словы, яны ж перакупаныя ў ванне вякоў. Наогул кажучы, беларуская мова, асабліва наша, паўночна-ўсходняя, крывіцкая, па чысціні, па поўнагалоссі здаецца мне лепшай. Не кажу, што мовы іншых раёнаў і абласцей горшыя — дрэнных моў не бывае, бываюць толькі тыя, хто псуе сваю мову, хто замінае яе развіццю. Самую вялікую шкоду ў ХХ стагоддзі нанёс нашай мове слоўнік Кандрата Крапівы, бо там мова абсалютна русіфікаваная. Канешне, Крапіва атрымаў указанне, бо сам жа ён паходжаннем з цэнтральнага раёна Беларусі, дзе мова вельмі цікавая. Але, відаць, Крапіве загадалі: калі мы — браты з рускімі, дык і мовы павінны быць аднолькавыя... Увогуле, мяне шчыра здзіўляе лёс нашай мовы, як яна выжывае ў такіх варунках. Яна ж была дзвесце гадоў, пасля далучэння Беларусі да Расіі, бясправўнай, на яе былі адны толькі ганенні і ганенні, але яна ўсё вытрымала.

***— Вы вось Крапіву прыгадалі, а ў процівагу яму можна, безумоўна, прывесці Ваш прыклад, невыпадкова ж Някляеў называе Вас чараўніком беларускай мовы...***

— Дзякуй яму за аванс.

***— Някляеў лічыць, што Вы абсалютна натуральна жывяце ў згодзе з беларускай мовай і проста не можаце існаваць без яе. Разам з тым ён спасылаецца на вядомага мовазнаўцу Вільгельма Гумбальта, які сцвярджаў, што не толькі чалавек стварае мову, але і мова стварае чалавека. Мяркую, што тут Някляеў таксама мае рацыю, бо Вы, мусіць, найлепшы прыклад таму, пра што пісаў Гумбальт.***

— Я не ведаю... Сам пра сябе я не магу гаварыць...

***— Між тым, Вы сябравалі з многімі выбітнымі беларускімі пісьменнікамі: Васілём Быкавым, Уладзімірам Караткевічам, Міхасём Стральцовым, даўно ўжо сябруеце з Генадзем Бураўкіным і Уладзімірам Някляевым. А хто з іх, на Вашую думку, таксама абсалютна натуральна жыў ці жыве ў атмасферы беларускай мовы?***

— У наш, у мой час у натуральнай беларускай атмасферы жыло працэнтаў дзевяноста пяць. Цяпер, канешне, менш, тым больш ва ўмовах, калі стала два саюзы пісьменнікаў. Не, каб дбаць пра згуртаванне і нейкую еднасць — абавязкова трэба расколваць пісьменнікаў! Але гэта яшчэ Сталін гаварыў: раздзяляй і валодай... Ну, хай яшчэ трэці саюз зробяць!..

Усё менш і менш людзей жыве ў натуральнай беларускай атмасферы, бо вёска памірае, а горад — той жа Мінск, які павінен быў бы быць цэнтрам беларускай культуры, беларускай мовы, — гэта як бутэрброд са штучнай ікрой. Дзеці не чуюць натуральнай мовы. Калі добрая беларуская мова была на тэлебачанні пры Генадзю Бураўкіну (і дзякуй яму за гэта), дык як цяпер гавораць дыктары — гэта не дай Бог!.. Маленькія беларусочкі не чуюць роднай мовы ад самага нараджэння... Два гады таму ў вушацкай школе быў выпуск, дык па-беларуску з усіх выпускнікоў гаварылі толькі мой сусед Раман ды адна дзяўчынка. А раней жа, пасля вайны, былі велізарныя класы — па сорак-пяцьдзясят чалавек, і як цяпер помню: уся школа выходзіць на лінейку, і перад вучнямі на чыстай беларускай мове выступае наш дырэктар Аляксандр Антонавіч Карабань... А цяпер амаль усё па-руску, як быццам тут філіял Масквы!

***— Дарэчы, вось і Някляеў у прадмове да «Вушацкага словазбору» піша пра тое,***

# ПАЧАЎ ЗБІРАЦЬ ЯШЧЭ Ў СЁМЫМ КЛАСЕ

***што мова — гэта больш, чым проста мова: мова — гэта найперш народ. І тут можна, відаць, перафразаваць Сталіна: няма мовы — няма народа.***

— Безумоўна. Гэта ўжо не народ — гэта насельніцтва Беларусі.

***— Таксама і Васіль Быкаў неяк сказаў, што трэба гаварыць не пра народ, а пра паслухмяны электарат.***

— Так, беларусы не чуюць роднай мовы. Вось ён нараджаецца, і маці гаворыць з ім па-руску, а пасля школа — зноў па-руску. А калі, не дай Бог, турма — дык таксама абавязкова па-руску. Гэта нам яшчэ ад расійскай імперыі засталося, бо я не ўяўляю нацыянальную турму… (Усміхаецца.)

***— Але лепей пра гэта нават не думаць. Аднак раней я прыгадаў некаторыя імёны, да прыкладу, той жа Уладзімір Караткевіч — ён заўсёды размаўляў па-беларуску?***

— Канешне! Валодзя быў проста ўнікальны чалавек. Але вы разумееце, тут, у Беларусі, увесь час адбывалася нейкая дзіўная рэч: усё беларускае тут ужо якое стагоддзе запар душаць і душаць, і калі здаецца, што нацыянальнае жыццё практычна задушана, раптам Бог ці Лёс пасылае нам такіх асоб, як той жа Уладзімір Караткевіч… Але ўся надзея на тых, хто ідзе следам. Я вось ляжаў у бальніцы, дык урач паходжаннем з поўначы Расіі размаўляў на чысцюткай беларускай мове! У яго можна проста павучыцца вымаўленню! Ужо не кажу пра маладых. Да мяне неяк прыходзіў малады ксёндз, у якога беларуская мова — проста раскоша! Ці ваш сябар Дзяніс Абухоўскі — здавалася б: геадэзіст па спецыяльнасці, але таксама размаўляе на выдатнай беларускай мове. Ужо не кажу пра такога волата, як Глеб Лабадзенка, якога шалёна люблю… Калі маладая пачнуць адраджаць мову, значыцца, яна будзе жыць.

***— Вяртаючыся да Вашага сёмага класа: не ўзгадаеце, дзядзька Рыгор, якую мэту Вы праследавалі, калі завялі той сшытачак з гучнай назвай «Слоўнік»?***

— Справа ў тым, што калі вучыўся ў школе, слоўнікаў жа не было. Не такі ўжо я разумны быў, каб супраць крапіўоўскага слоўніка ісці (усміхаецца) — ён выйшаў толькі ў 1953-м і, між іншым, адразу не лёг мне на сэрца. А свой слоўнік я рабіў для сябе. Ну, і каб, можа, усе ім карысталіся.

***— У дзяцінстве ва ўсіх часта напалеонаўскія мары.***

— Так! Я думаў, што літаральна ўсе будуць з маім слоўнікам хадзіць!

***— Але бачыце, дзядзька Рыгор: мінула шэсцьдзясят гадоў, і калі не ўсе, але ж нехта сапраўды будзе карыстацца Вашым слоўнікам.***

— Мне, канешне, хацелася б, каб яго прынялі.

***— У Вас ёсць спадзеў на тое, што ён стане не толькі літаратурным фактам, але будзе мець і практычна-навуковае значэнне?***

— Мне, вядома, хацелася б таго. Мне хацелася б трохі змякчыць мову тых, хто вывучаў яе па кнігах ды газетах, каб яны «дагналі» яе да натуральнай мовы. Бо чым яшчэ добры «Вушацкі словазбор» — яго можна адкрыць на любой старонцы, ён цалкам напоўнены, тут няма нічога прахаднога.

***— Застаецца спадзявацца, што калі будзе ствараца не ідэалагічна вывераны, а сапраўдны слоўнік сучаснай жывой беларускай мовы, дык Ваш «Вушацкі словазбор» таксама будзе прыняты пад увагу.***



Фота аўтара

Барадулін і Наталля Давыдзенка, укладальніца «Вушацкага словазбору»

— Хай пяць слоў, але возьмуць.

***— А якія слоўнікі асабіста для Вас і дасюль застаюцца ўзорам, якія Вы пад рукой трымаеце і да якіх час ад часу звяртаецеся?***

— Такім слоўнікам быў і застаецца слоўнік Ластоўскага — ён самы чысты, самы беларускі. Праўда, там шмат словатвораў, але гэты слоўнік мне найбольш падабаецца.

***— Памятаю, што дома ў Вас было аж пяць экзэмпляраў гэтага слоўніка, і калі нехта запытаўся, нашто Вам столькі, дык Вы адказалі, што слоўніка Ластоўскага шмат не бывае.***

— Але я ўжо раздарыў яго…

Ну, і яшчэ адзначыў бы слоўнік Даля, бо там страшэнна многа беларускіх слоў. Калі ў мяне не было слоўніка Ластоўскага, дык я, яшчэ падчас вучобы ва ўніверсітэце, хадзіў у бібліятэку і выпісваў са слоўніка Даля тыя беларускія словы.

Наогул кажучы, я люблю паглядзець і іншыя слоўнікі, бо, дзякуй Богу, у свой час было шмат іх выдадзена — і слабых, і моцных, але пасля гуманітарныя навукі сталі практычна не патрэбныя і ўсё ляснулася. А якія могуць быць слоўнікі без гуманітарных навук?

***— Сапраўды, пра што гаварыць, калі ўжо аб'ядналі інстытуты мовы і літаратуры, дый назвалі тую новую ўстанову імёнамі Купалы і Коласа!***

— Гэта як у тым анекдоце: Карл Маркс і Фрыдрых Энгельс — гэта чатыры розныя чалавекі. Тут практычна тое самае.

***— Паэт Міхась Скобла неяк сказаў, што калі не ведае, як правільна пісаць тое ці іншае слова, дык глядзіць, як напісаў Барадулін. А калі Вы не ведаеце, як правільна пісаць, ці звяртаецеся да сучасных слоўнікаў?***

— Тады я прыгадваю, як мама гаварыла ці як гаварылі нашыя суседзі, бо вушацкі варыянт беларускай мовы пры мне быў яшчэ жывы. А калі мова жывая, дык нават небеларускае слова ў агульнай моўнай плыні можа зрабіцца беларускім.

***— Ваша дзіцячая мара, дзядзька Рыгор, нарэшце здзейснілася — слоўнік выдадзены, але ж Вы не можаце паўтарыць за тым паэтам, які сказаў: «Напісаў апошні верш пра каханне — закрыў тэму»?***

— Не, тэму я, канешне, не закрыў. Вушацкія словы дасюль прыходзяць да мяне, яны штурхаюцца ў мяне пад сэрцам. Калі я нават у рэанімацыі ляжаў, дый і тады да мяне прыйшоў нейкі вушацкі выраз!

***— А ці ўся выдадзеная Вашая паэзія?***

— Не, яшчэ многа засталося, і маёй, і перакладной — той, што ніколі не друкавалася. Але я не спадзяюся, што гэта будзе некалі выдадзена. Не спадзяюся, бо там мне гэта будзе ўжо аднолькава.

***— Прыгадваецца, што яшчэ ў 1964 годзе ў эсэ «Дзякуй роднаму слову!» Вы — тады яшчэ трыццігадовы — прызнаваліся, што хоць кніг у Вас у той час выйшла больш, чым у Максіма Багдановіча пры жыцці, але з радасцю пагадзіліся б мець адзін такі «Вянок». Скажыце па шчырасці, дзядзька Рыгор, ці аддалі б сёння якія свае паэтычныя зборнікі за «Вушацкі словазбор»?***

— Відаць, кніжак пяць-шэсць аддаў бы, але — ранніх вершаў. Апошніх — не.

***— Якія ў такім выпадку Вы назвалі б галоўнымі з ліку Вашых кніг? Відаць, «Евангелле ад Мамы», «Ксты»?***

— І яшчэ «Песні матчыны з Вушаччыны», была маленькая такая кніжачка, якую некалі выдаў Уладзімір Лапцёнак.

***— «Вушацкі словазбор» — таксама адна з Вашых вынiковых кніжак?***

— Безумоўна.

# ВУШАЦКІ СЛОВАЗБОР

**Рыгор БАРАДУЛІН**

## Слоўнік

**Абалынка** — хмурынка, аблачынка. Набегла абалынка й сонейка схавала.

**Абдзіртус** — той, на якім адзежа хутка рвецца, абадранец. На абдзіртуса адзежы не напасешся.

**Аб'есці** — наесціся ўволю, сагнаць смак. Аб'елі шчупакоў, язі будуць наставаць, тады ўжо іх пад'ядзём.

**Абліваха** — дождж са снегам; яшчэ — слізгата. Такая абліваха, што кажух карыной зробіўся. Абліваха такая, што па дарозі каціцца можна, паваліўшся — галавы не збярэш.

**Абялёдаваць** — есці са смакам. Так клёцкі абялёдаваіць, аж нос упрысядкі йдзець, аж за вушамі скрыпіць.

**Анінютанькі** — нізавошта, ні ў якім разе. Да работанькі анінютанькі, а да любатанькі, ах, мае матанькі.

**Ваўкарэзіна** — абразлівы зварот да каровы, каня. Стой, ваўкарэзіна, каб на цябе ваўкі!

**Густыш, гусцё, гусцёж, гусцяк, гусцяёк** — густое ў варыве. Увесь густыш з капусты выцягаў, а жыжку пакінуў. Ты яму гусцяйку чарэпай.

**Дабрапсуй** — хто дабро псуе. Купіла б мужыку пінжак, ды гэны дабрапсуй яго ўсё роўна зблоціць.

**Жаўжаняткі** — малыя жвавыя дзеткі.




Для маткі роўныя ўсе жаўжаняткі.

**Жванікі** — пажванае едзіва, якім, бывае, кормяць малога, яшчэ бяззубага. Сама еш жванікі свае, а мне ня торкай.

**Залівень** — заліўны дождж, залева. Залівень як запражэцца, дык свет белы заліць гатоў.

**Захцяначкі** — прышчыкі на твары ў падлеткаў. Ускочылі захцяначкі — думай пра наначкі.

**Збычыцца** — насупіцца. Чаго ты збычыўся, ты ж дачку замуж аддаеш.

**Здыхля, здыхлік, здыхляціна** — нягеглы, змарнелы. Ня конь, а здыхля, такога хоць самога вязі.

**Кугугутанька** — ласкавае найменне зайца. А мой ты заінька, а мой ты кугугутанька. (Малога мяне так кволіла мама.)

**Курдупэпачка** — маленькая асоба, як кнопачка. Курдупэпачка такая, а яшчэ звысоку глядзіць.

**Кусанік** — надкушаны, недакусаны хлеб, пірог. Мне чужых кусанікаў ня трэба.

**Мазгаўня** — галава. У яго мазгаўня яшчэ добра варыць.

**Мазолькі** — мазгі. Пакруці трошку сваімі мазолькамі й дадумаешся, на чым свіння хвост носіць.

**Нагбом** — піць з усяго вядра, каўша. Пілі гора й нагбом, і каўшом.

**Нагруднік** — бюстгальтар. У дзеўчынёшкі ўжо сісёнкі адскочылі, у нагруднічак просяцца.

**Пахадушкі** — клопат, хаданіна. Чалавек у пахадушках, дык час неўзаметку праходзіць.

**Пахапунькі** — успомненае ці раптам прыдуманае. З яго пахапунькі сыпяцца, як з дзюравага меха.

**Пацалуйнічак** — хто любіць цалавацца. Матчына радасць — сынок-пацалуйнічак.

**Прыбабунька** — вясёлая прыгаворка. Ён без прыбабунькі й кроку ня ступіць, і за стол ня сядзіць.

**Самалюбімы** — самалюбівы, прагны да славы. Такі ўжо самалюбімы, баіцца на свой цень наступіць. Ён такі самалюбімы, што сам з сябе пылінкі здзьмухваіць (Мама заўсёды казала так; у гэтым варыянце больш сэнсу).

**Сачок** — жакет. Такі лёгкі сачок — у ім і ў госці, і ў скокі добра. Цэлае лета на пасту ганяла, а на сачок — спіну прыкрыць — не заробіла.

**Сушонікі** — грыбы, якія сушаць. Сёлета сушонікаў цэлую торбу назбірала.

**Таўстамясіца** — мажная, поўная. Ён як бражджэль каля сваёй таўстамясіцы.

**Таўсціла** — тоўсты. Зайшоў таўсціла ў хату — адразу цесна стала.

**Тулінька** — ласкавае кліканне, падзыванне маладога каня. Спачатку «тулінька-тулінька», а пасля «стой, воўча мяса!»

**Турурукацца** — гучна весці размову. Як пачнуць турурукацца — сціху ім німа.

**Тутацька** — тут. Куды ні кінуся — німа, ні тутацька, ні тамацька.

**Хлебнік** — хто спрыяе зарабляць хлеб. Конь — хлебнік, а каровам усё пад хвост пхаюць, а пасля кароў за хвост цягаюць.

**Ясачка** — бліскінка, іскрынка. Хусцінка ў ясачкі, ідзець маладзіца — аж сама свеціцца.

**Ясік** — ласкавы зварот да дзіцяці. Ясік ты мой, дзень мой пагодлівы.

## Стравы

**Бульба ў панчошках** — бульба ў шалупках, нячышчаная, звараная цалкамі. На вячэру бульба ў панчошках, кожны сам разуваіць.

**Вантрабянка** — кілбаса. Кішка, напханая (накрапаная) вантробамі (ліверная). Вантрабянку ў капусце зварылі, наеліся, аж вочы пакруглелі.

**Дзяронікі, дзярбуны, драчкі, суконнікі (посныя), таптуны** — бліны ці сачні з дзяронай на тарцы бульбы. Хоць дзяронікам голад адгоніш. І дзярбун сала любіць. Бульба здаровая, як на драчкі. На таптуны трэба бульба й жменя мукі.

**Калатуха** — варыва з мукі. Еш калатуху, пакуль гарачая.

**Самагонка**. Калі самагонка плачаць (на сценках пляшкі кроплі), значыць, дрэнная.

**Квашаніна** — сцюдзень, халадзец. Еш квашаніну, пакуль не раз'ехалася.

**Лянуха** — варыва са свежай капусты, часта бялёнае. Лянуха — не свята для бруха.

**Мурцоўка.** У міску крышыцца цыбуля, хлеб, соль і ўсё заліваецца вадой. Па мурцоўцы не памарцуеш, а свайго падрабяззя не ўчуеш.

**Перапечка** — пшонная пульхная булачка. Дзеўка, як перапечка, так і цягніць за азадачак ушчыкнуць.

**Пражонка.** У чыгунку пражэцца (тушыцца) сала, кілбаса, скабінка (рабрына). У яе мачаюць бліны ці закручваюць у блін. Калядны стол без пражонкі, як мужык бяз жонкі.

Сала любіць, каб у цеснаце і ў солі, каб адно каля аднаго ляжала. Калі няма марозу, сала слізніць.

Сарокі, ці клёцкі з душамі. Бульбяныя клёцкі, унутры «душа» — сала ці сечанае мяса.

**Хлебнічак** — печыва. Хлебнічкі пякуць з макам — рыхлыя такія булкі перад печчу.

▸ КАМПАНІЯ

# ТЭАТРАЛЬНЫ СЕЗОН «ЗАХАПЛЕННЯЎ»

**«Будзьма беларусамі!» працягвае мультымедыйны праект «Захапленні» і прэзентуе другі сезон прыцягальных гісторый. Першы сезон праекта паспяхова прайшоў у 2012 годзе.**

Гэтым разам у серыі незвычайных рэпартажаў возьмуць удзел беларускія акцёры, рэжысёры, драматургі, асвятляльнікі, білецёры, грымёры, мастакі па касцюмах і сцэнографы — тыя людзі, без якіх не было б беларускага тэатру.

«Мы вельмі рупімся, каб беларусы ведалі і любілі сучасную беларускую культуру. Часцей за мяжой нашых выканаўцаў ведаюць лепш, чым у самой Беларусі. Таму кампанія пастаянна шукае розныя формы, каб зацікавіць людзей, прадэманстраваць, што беларуская культура — цікавая, яна паляпшае нашае жыццё. І адной з такіх формаў стаў праект «Захапленні», яго другая назва — «Такімі вы нашых зорак яшчэ не бачылі!». Менавіта праз разнастайныя хобі мы імкнуліся прыцягнуць увагу — і так пазнаёміць бліжэй, а кагосьці — і ўпершыню з тымі, хто стварае беларускую культуру сёння. Поспех першага сезона падштурхнуў нас да стварэння працягу — захапленняў «тэатралаў», — кажа Ніна Шыдлоўская, каардынатар кампаніі «Будзьма беларусамі!».

Новы сезон праекта «Захапленні», які стартаваў на сайце кампаніі з 12 лістапада, — гэта тры дзясяткі «фільмаў», унікальных паводле фармату і зместу: не звычайныя інтэрв'ю пра «вашы творчыя планы», не проста гутарка на дыктафон. «Рэпартажы з месца дзеяння», відэазамалёўкі пра захапленні цікавых і значных для нашай культуры людзей.

«Адметнасцю другога сезона стане надзвычайная практычнасць захапленняў, — кажа Ганна Трубачова, аўтар праекта. — Вялікім здзіўленнем было даведацца, якой колькасцю здольнасцяў валодаюць супрацоўнікі тэатральнай сцэны: наўрад ці прадстаўнікі хоць якой прафесіі такія ж мультыталенавітыя. Мы пэўныя, што гэта жывы, натхнёны праект. Сапраўдны экшн!»

Праект раскажа пра тое, як тэатралы самі выпрабляюць адзенне і аксесуары, рэстаўруюць старую мэблю, здольныя разабраць і сабраць ровар, прапарыць каго заўгодна ў лазні, зрабіць масаж і фрызуру, спыніць каня на ходу, стварыць персанальную выставу калажаў і паспяховы рок-гурт. Тры дзясяткі захапленняў і неверагодны бляск вачэй, бо апантаны чалавек, які расказвае пра сваю любімую справу, выпраменьвае прамяні святла і пазітыўнай энергіі. Праца ў такой атмасферы для здымачнай каманды стала сама па сабе захапленнем.

Глядзіце кожны аўторак на сайце кампаніі «Будзьма беларусамі!» www.budzma.org



▸ ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# МУЗЕЙ БАГДАНОВІЧА: РЭАРГАНІЗАЦЫЯ ПАДОБНАЯ ДА ЛІКВІДАЦЫІ

**Інфармацыя пра далучэнне Літаратурнага музея Максіма Багдановіча да Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры ў межах «аптымізацыі і рэарганізацыі музеяў» агаломшыла шмат каго. Адзін з найвядомейшых музеяў краіны, які стаіць у адным шэрагу з музеямі Якуба Коласа і Янкі Купалы, губляе самастойнасць і становіцца філіялам іншага музея! Пра бяду, якая навісла над музеем, карэспандэнт «Новага Часу» Таццяна Шапуцька распытала супрацоўнікаў установы.**



## Рашэнне ёсць, падрабязнасцяў няма

Старшая навуковая супрацоўніца Таццяна Барадуля кажа, што работнікі музея мала што ведаюць пра будучую рэарганізацыю, якую, паводле рашэнне калегіі Міністэрства культуры, неабходна правесці да 31 снежня.



Таццяна Барадуля

— На нашы пытанні ў Мінкульце адказвалі — маўляў, пазней дакумент будзе апублікаваны ў дзяржаўных газетах, там і прачытаеце ўсе дэталі. Чуткі хадзілі даўно, але ж гэта былі толькі чуткі... Пра далучэнне нашага музея да Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры даведаліся, як і ўсе, — з пастановы калегіі Міністэрства культуры, агучанай у СМІ.

Музейныя супрацоўнікі пакуль і самі не ведаюць, каго з іх звольняць, а хто застанецца працаваць; што будзе з музейнымі фондамі і з экспазіцыямі. Ці застанецца музею будынак у Траецкім прадмесці, дзе цяпер вядзецца рамонт — таксама пытанне. Таццяна Барадуля выказвае перасцярогу, што пазбаўленне музея Багдановіча аўтаноміі можа нашкодзіць прэстыжу ўстановы:

— Для беларусаў уся нацыянальная літаратура грунтуецца на «трох кітах» — гэта Янка Купала, Якуб Колас і Максім Багдановіч. Калі ж наш музей стане філіялам — адбудзецца паніжэнне статуса як нацыянальнага паэта, так і музея як дзяржаўнай установы. Наведвальнік хутчэй пойдзе ў галоўны музей, а не ў філіял.

Па-другое, у нас саміх два філіялы — «Беларуская хатка» ў Мінску і дом у Ракуцёўшчыне, дзе летам 1911 года адпачываў Багдановіч. У Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры таксама маюцца свае філіялы — калі іх злучыць, выйдзе каля 10! Сумняваюся, што ў новага кіраўніцтва будзе час клапаціцца пра наш музей, калі трэба дбаць пра столькі філіялаў!

Паводле Таццяны Барадулі, супрацоўнікі музея вельмі нервуюцца праз будучую рэарганізацыю. Тым болей, у філіялаў няма ні сваёй бухгалтэрыі, ні сваіх аддзелаў, таму, выходзіць, скароцяць навуковых супрацоўнікаў.

— Усе вельмі хвалююцца, усе на нервах. Узнікае ўражанне, што культура — гэта тая сфера, на якую выдаткоўваюцца грошы па нейкім астатачным прынцыпе. Былі моманты, калі падавалася, што горш няма куды, але гэтая сітуацыя давяла, што заўсёды ёсць.

## Супрацоўнікаў менш, бюракратычнай працы больш

Захавальніцу фондаў Людмілу Сасонку найбольш хвалюе, што ж станецца з фондам музея:

— У нашым зборы знаходзіцца самая вялікая калекцыя аўтографаў Максіма Багдановіча — 30 рукапісаў, а таксама 6 прыжыццёвых выданняў кнігі вершаў Багдановіча «Вянок» 1913 года. Сабраць гэтыя ўнікальныя творы і дакументы ўдалося толькі дзякуючы шматгадовай працы музея менавіта як самастойнай юрыдычнай адзінкі — для таго, каб аператыўна ўвасабляць у жыццё планы і творчыя праекты, важна мець магчымасць на месцы вырашаць працоўныя пытанні. Калі ж скасуюць нашу юрыдычную самастойнасць, павялічыцца бюракратычная праца — будзе дубляваца справаводства, дакументы трэба будзе падпісваць у іншым будынку, мы будзем вымушаны губляць час, каб азнаёміць з пытаннямі людзей, якія непасрэдна не займаюцца нашай працай.

Людміла Сасонка апавядае, што цяпер у фондзе музея налічваецца каля 17 тысяч «адзінак захоўвання» — гэта калекцыі твораў мастацтва, дакументы даследавання жыцця і творчасці Багдановіча, рукапісныя архівы дзеячаў культуры і літаратуры. Захавальніца фондаў нагадвае, што на першым нацыянальным форуме «Музеі Беларусі — трэцяму тысячагоддзю», які прайшоў у мінулым годзе, музей атрымаў узнагароду ў намінацыі «Лепшая арганізацыя выставы з уласных фондаў» за цыкл выставаў «Экспануецца ўпершыню».

Таццяна Барадуля дадае, што нягледзячы на рамонт, музей актыўна працуе: адбываюцца творчыя вечары, літаратурныя сустрэчы:

— Цяпер экскурсій не прымаем, але мы вельмі запатрабаваныя, і часам нават вымушаныя адмаўляць школам, якія запрашаюць нашых супрацоўнікаў на заняткі — распісана ўсё на тыдні наперад. На фоне іншых музеяў мы выглядаем годна!

На прэс-канферэнцыі, прысвечанай «аптымізацыі ў галіне культуры», міністр культуры Барыс Святлоў зазначыў, што пытанні рэарганізацыі музеяў абмяркоўваліся з музейнаю супольнасцю.

— Я пра гэта чую ўпершыню, — кажа Таццяна Барадуля. — Калі б Міністэрства культуры абмеркавала з намі магчымае далучэнне музея Багдановіча да іншай установы перад тым, як прымаць рашэнне, мы б растлумачылі ім усе праблемы і негатыўныя наступствы гэтай рэарганізацыі, і такой балючай сітуацыі не склалася б.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК.** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ.** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА.**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986 38 05, +375 17 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 1409

Падпісана да друку 15.11.2013. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.